задзіночаньне беларускіх студэнтаў

# Студэнцкая думка

№8

лістапад 1998

# ЗЬМЕСТ нумару 8




**Выданьне заснавана:** Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў
**Рэдактар:** І.Віданава
**Карэктар:** В.Булгакаў
**Набор:** В.Шылай
**Вёрстка:** Цэнтар «Выдавецкая Ініцыятыва»

Наклад 299 асобнікаў

Сяргей Зікрацкі,
Зьміцер Зікрацкі

# ПРАЦАЎЛАДКАВАНЬНЕ: Твае правы і абавязкі

Увесь час не хапае кішэнных грошай, а стыпэндыя заканчваецца на першым тыдні? Вечную спрэчку аб тым, што больш карыснае, тэорыя альбо практыка, вырашаеш на карысьць практыкі? Інакш кажучы, вырашыў уладкавацца на работу? У добры шлях… Прапануем невялічкія разважаньні на тэму працаўладкаваньня.

**Прыём на працу**

Спачатку аб сумным: у тэорыі працоўнага права прававое становішча звычайных работнікаў і студэнтаў дзённых аддзяленьняў ВНУ, якія сумяшчаюць навучаньне з працай, аднолькавае (пэўныя ільготы прадугледжаны толькі для студэнтаў, якія навучаюцца на завочных і вячэрніх аддзяленьнях). Таму прэтэндаваць на якія-небудзь прывілеі альбо ільготы бессэнсоўна.

Пры прыёме на працу паміж работнікам і наймальнікам заключаецца працоўная дамова. Форма яе можа быць як пісьмовай, так і вуснай. На практыцы ў большасьці выпадкаў пераважае вуснае пагадненьне паміж работнікам і наймальнікам. Дасягнутыя дамоўленасьці афармляюцца загадам дырэктара аб прыёме на працу, які абавязкова складаецца ў пісьмовай форме. На працягу 5 дзён наймальнік абавязаны ўнесьці запіс аб прыёме на работу ў працоўную кніжку работніка, а калі яе няма (работнік уладкоўваецца на працу ўпершыню) – завесьці працоўную кніжку.

Працоўныя дамовы заключаюцца на:

1) няпэўны тэрмін;
2) пэўны тэрмін;
3) час выкананьня пэўнай працы.

Калі работнік заключае дагавор на пэўны тэрмін, гэта не азначае, што па яго заканчэньні і пры жаданьні працягваць працаваць яму зноўку прыйдзецца заключаць дамову. У адпаведнасьці з артыкулам 30 Кодэксу законаў аб працы Рэспублікі Беларусь (КЗаП), калі па заканчэньні тэрміну, на які была заключана працоўная дамова, працоўныя адносіны фактычна працягваюцца і не адзін з бакоў не запатрабаваў іх спыненьня, то дзеяньне дамовы лічыцца працягнутым на няпэўны тэрмін. Прававое становішча работнікаў, якія працуюць па дамовах, заключаных на пэўны ці няпэўны тэрмін, істотна розьніцца толькі ў пытаньнях звальненьня з працы. У большасьці выпадкаў дамовы заключаюцца на няпэўны тэрмін. Калі дамова заключана на пэўны тэрмін, гэта абавязкова павінна быць зазначана ў загадзе дырэктара.

На практыцы наймаль-

нікі імкнуцца не афармляць афіцыйна на працу моладзь, студэнтаў. Звычайна ўсё абмяжоўваецца вуснай дамоўленасьцю аб умовах працы, працоўным часе, форме і памерах аплаты працы. Ніякіх афіцыйных атрыбутаў (такіх, як загад дырэктара або працоўная кніжка) не існуе.

Прычынаў для гэтага ёсьць некалькі. Па-першае, пры афіцыйным афармленьні работніка на працу наймальнік бярэ на сябе абавязаньні па ягоным сацыяльным забесьпячэньні (штогадовы аплатны адпачынак, ліст па хваробе і г.д.). Па-другое, ён абавязаны плаціць падаткі. На сёньняшні дзень на кожны рубель заробку, які налічаны работніку, наймальнік павінен заплаціць каля 50 капеек падаткаў і непадаткавых плацяжоў дзяржаве. І ў той час, калі наймальнік думае, як яму меней плаціць падаткаў, да яго прыходзіць студэнт, які шукае працу і жадае быць занятым няпоўны працоўны дзень. Наймальнік з задавальненьнем дае яму працу, пры гэтым афіцыйна гэта не афармляе, што дае яму вялікія магчымасьці для розных злоўжываньняў (напрыклад, выплата меншага заробку, праца ў пазапрацоўны час і інш.).

Асобна трэба спыніцца на працаўладкаваньні пасьля заканчэньня ВНУ. Як вядома, пасьля разьмеркаваньня трэба адпрацаваць 2 гады на тым прадпрыемстве, на якое вас накіравалі. Паўстае пытаньне: што лепш рабіць пасьля заканчэньня гэтага тэрміну? Трэба працягваць дагавор, ці не? Ці могуць вас звольніць на падставе заканчэньня тэрміну, на які была заключана дамова? Па дзеючым заканадаўстве праз два гады вы маеце права застацца на тым прадпрыемстве, куды вас разьмеркавалі, нават без паўторнага заключэньня працоўнай дамовы. Звольніць вас могуць толькі па асабістым жаданьні, за прагулы, за парушэньне правілаў унутранага распарадку і г.д.

**Звальненьне** Звальненьне, у тым выпадку, калі дагавор быў заключаны на няпэўны тэрмін, не выклікае вялікіх цяжкасьцяў. Неабходна за месяц у пісьмовай форме папярэдзіць аб жаданьні звольніцца па ўласным жаданьні. Па заканчэньні гэтага тэрміну работнік мае права спыніць працу, а наймальнік абавязаны выдаць яму працоўную кніжку і правесьці разьлік. Па пагадненьні бакоў работнік можа звольніцца і да заканчэньня месячнага тэрміну.

Іншая сытуацыя складаецца пры скасаваньні дамовы, заключанай на пэўны тэрмін. У гэтым выпадку работнік ня мае права па ўласным жаданьні скасаваць дамову да заканчэньня яе тэрміну. Такім шляхам дамова можа быць скасавана толькі пры ўзаемнай згодзе бакоў, а таксама па патрабаваньні работніка пры наяўнасьці ўважлівых прычын (хвароба, якая перашкаджае выкананьню працы, парушэньне наймальнікам заканадаўства аб працы, пераезд у іншую мясцовасьць і інш.).



Такім чынам, найбольш прымальнай для работніка зьяўляецца дамова, заключаная на няпэўны тэрмін.

**Разгляд спрэчак** Існуюць дзьве групы органаў, якія разглядаюць працоўныя спрэчкі: камісіі па працоўных спрэчках (КПС) і суды.

КПС – гэта перажыткі савецкай сыстэмы, якія былі створаны ў свой час, па ўсёй верагоднасьці, для спрашчэньня працэсу ажыцьцяўленьня правасудзьдзя. Яны ствараліся на кожным прадпрыемстве з роўнай колькасьці прадстаўнікоў прафсаюзу і наймальніка тэрмінам на адзін год. На сёньняшні дзень у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам на тых прадпрыемствах, дзе існуюць КПС, для ўсіх сябраў прафсаюзу яны зьяўляюцца першасным органам па разглядзе працоўных спрэчак (за выключэньнем выпадкаў, якія падлягаюць разгляду толькі ў судах). Для тых, хто не ўваходзіць у прафсаюз, ёсьць выбар: або зьвярнуцца ў КПС, або ў суд. Натуральна, што КПС ня можа забясьпечыць правільны і справядлівы разгляд усіх спраў. Па-першае, таму, што прадстаўнікі як наймальніка, так і прафсаюзу зьяўляюцца ўскосна зацікаўленымі асобамі і ня ў стане забясьпечыць цалкам непрадузяты разгляд справы. Па-другое, таму, што не заўсёды як прафсаюз, так і наймальнік могуць абраць у камісію дасьведчаных і прафэсійных удзельнікаў.

Суды разглядаюць працоўныя спрэчкі ў наступных выпадках: 1) калі на прадпрыемстве ня створана КПС; 2) калі работнік не зьяўляецца сябрам прафсаюзу і не пажадаў зьвяртацца ў КПС; 3) калі работнік або наймальнік ня згодны з рашэньнем КПС; 4) справы аб аднаўленьні на працы і справы аб няшчасных выпадках.

Актуальным зьяўляецца пытаньне аб тым, як распаўсюджваецца працоўнае заканадаўства на работніка, які афіцыйна ня быў прыняты на працу, хаця і выконваў свае абавязкі. У адпаведнасьці з артыкулам 18 КЗаП РБ, фактычнае дапушчэньне да працы лічыцца заключэньнем працоўнай дамовы, незалежна ад таго, ці быў прыём на працу належным чынам аформлены. Пры ўзьнікненьні працоўных спрэчак з наймальнікам ён карыстаецца ўсімі тымі правамі, што і звычайны работнік; яму толькі неабходна даказаць факт сваёй фактычнай працы ў наймальніка. А гэта зрабіць вельмі лёгка: выклікаць у суд у якасьці сьведак тых людзей, зь якімі вы разам працавалі.

У любым выпадку, пры зьяўленьні працоўных спрэчак з наймальнікам вы можаце зьвяртацца ў суд. Гэта дае вам некалькі пераваг. Па-першае, сёньня суды большасьць спрэчак паміж работнікам (ці былым работнікам) і наймальнікам вырашаюць не на карысьць апошняга. Па-другое, калі вы паставіце сваё кіраўніцтва перад фактам, што абскардзіце яго дзеяньні ў судзе, хутчэй за ўсё яно стане больш ляяльным да вас і да вашай агульнай праблемы і, верагодна, вы нават абыйдзецеся бяз суду.

Трэба адзначыць, што ваша прававое становішча не залежыць ад таго, дзе вы працуеце: на дзяржаўным прадпрыемстве альбо ў камэрцыйнай фірме. Законы для ўсіх аднолькавыя.

У гэтым артыкуле мы сьцісла разгледзелі толькі тую дзейнасьць, якая рэгулюецца працоўным заканадаўствам. На практыцы яна можа рэгулявацца таксама і грамадзянскім заканадаўствам. Але гэта ўжо асобная размова, да якой мы яшчэ калі-небудзь зьвернемся.

Андрусь Храпавіцкі

# СТУДЭНТЫ-ЗАМЕЖНІКІ *У Полацку*

Ужо нікога не зьдзіўляюць цёмнаскурыя хлопцы, якія шпарка размаўляюць на якой-небудзь экзатычнай мове, з валізкай у руках па дарозе да ці з унівэрсытэту. Яны сярод нас жывуць, вучацца, працуюць, шмат зь іх зьяжджае, але некаторыя і застаюцца.

Але цікава чаму, што іх занесла сюды, на Беларусь. Найперш трэба заўважыць, што раней замежных студэнтаў было нашмат больш. У Наваполацку быў пабудаваны нават асобны інтэрнат, дзе жылі замежнікі. Падчас перабудовы і ў першыя гады існаваньня незалежнай Беларусі паступалі сюды многія. Шмат прыехала зь нестабільных краінаў, дзе йшла вайна. Напрыклад, Даніэль з Руанды. Зараз ён атрымлівае ўжо другую вышэйшую адукацыю ў Полацкім дзяржаўным унівэрсытэце, ці Жан, які да таго ж выкладае тут францускую мову.

Вучыцца таксама шмат арабаў, якія прыехалі ў пошуку таннай вышэйшай адукацыі. У Наваполацку арабаў сярод студэнтаў-замежнікаў (калі не лічыць расейцаў) больш за ўсё. Яны аблюбавалі для жыцьця трэці інтэрнат. Селяцца яны звычайна побач ці разам, сябруюць і камунікуюць паміжсобку вельмі шчыльна. Амаль кожны вечар ладзяць свае нефармальныя тусоўкі з нацыянальнай арабскай музыкай і час ад часу беларускімі дзяўчатамі, якія на іх, як пчолы на мёд, "западаюць" зь першае ж сустрэчы.

Але апошнім часам колькасьць студэнтаў-замежнікаў пачала раптоўна зьмяншацца. Гэта і ня дзіўна. Імідж нашае краіны ўвесь час падае на міжнароднай арэне ў сувязі са шматлікімі парушэньнямі правоў чалавека, у тым ліку і правоў студэнтаў.

Напрыклад, як мне паведаміла выхавальніца інтэрнату N3, колькасьць жыхароў з далёкага замежжа скарацілася да 8 студэнтаў і двух асьпірантаў. На пытаньне, чаму ж іх застаецца ўсё менш, выхавальніца адказала, што, як ёй паведамілі самі студэнты-замежнікі, нашы дыплёмы на Захадзе не кацíруюцца.

Тым ня менш, ёсьць яшчэ тыя, хто прыяжджае атрымліваць вышэйшую адукацыю да нас.

Я хачу пазнаёміць вас з адным зь іх – летувісам Андрусам Шурскісам.

**Андрусь Храпавіцкі:** Якім было тваё першае ўражаньне, калі ты прыехаў у Наваполацак?

**Андрус Шурскіс**: Куды я патрапіў! Жахлівае ўражаньне: шэры горад, нежывы, дамы квадратныя, бруд. Калі я засяляўся, для мяне быў падрыхтаваны пакой з абадранымі шпалерамі ды чорным падаконьнікам. Праўда, потым рамонт усё ж зрабілі.

**А.Х.:** Наколькі я ведаю, твой пакой абрабавалі ў першым сэмэстры твайго навучаньня тут?

**А.Ш.:** Так, гэта было ў лістападзе. Укралі магнітафон, аўдыёплэер, мацін залаты пярсьцёнак, а таксама замок, які каштаваў 2 мільёны. Калі гэта сказаў у міліцыі (на той час гэта былі вялікія грошы), яны не паверылі. Сказалі: ды годзе табе? Можа, дзьвесьце тысячаў?

**А.Х.**: А злачынцу хоць знайшлі?

**А.Ш.**: Не, у міліцыі мне сказалі прыходзіць праз ты-


Стары полацкі інтэрнат (бурса) для замежнікаў

дзень. Я прыйшоў. Сказалі, яшчэ праз тыдзень. Я прыйшоў: зноў ніякіх вынікаў. Празь месяц сказалі: "Ты, хлопец, не адчайвася, сьледзтва мы зачынім празь дзесяць гадоў!"

**А.Х.**: Скажы, а як ты вырашыў паехаць сюды вучыцца?

**А.Ш.**: Прапанавала фірма па транспарце нафты. Паступаў у два ўнівэрсытэты ў Летуве, а потым даведаўся, што ёсьць спэцыяльнасьць па транспарце нафты ў Наваполацку. Фірма будзе плаціць стыпэндыю, а я павінен адпрацаваць пяць гадоў на яе.

**А.Х.**: Дарэчы, тое, што ты маеш у пакоі, гэта твае ўласныя рэчы?

**А.Ш.**: Часткова. Але кампутар, лядоўня, тэлевізар, відэамагнітафон і музычны цэнтар – гэта рэчы фірмы. Фірма таксама мяне возіць дадому і на вучобу на машыне два разы на год.

**А.Х.**: А што, калі ты адмовісься працаваць на фірму ці цябе выключаць з унівэрсытэту?

**А.Ш.:** Мне давядзецца заплаціць за ўсе ейныя паслугі.

**А.Х.**: Ты казаў, што паступаў у два ўнівэрсытэты. Як гэта?

**А.Ш.**: У нас, у Летуве, мо-жна пастунаць загадзя па вы-ніках 12 клясы. У нас навучальны год падзелены на тры часткі – трымэстры. Я падаў свае адзнакі ў Каўнаскі тэхналягічны ўнівэрсытэт і Віленскі імя Гедыміна, з умовай, што на іспытах набяру пэўную колькасьць балаў. І ў Каўнаскі быў залічаны. Але потым, калі вырашыў вучыцца ў Наваполацку, забраў свае дакумэнты.

**А.Х.**: А як табе Наваполацак зараз? Ты тут ужо трэці год.

**А.Ш.**: Уражаньне палепшылася. Ёсьць сябры, зь якімі можна схадзіць на прыроду на піва, таму што больш схадзіць няма куды, ці проста пасядзець і паглядзець фільм...

**А.Х.**: Ты дзесьці працуеш у вольны час?

**А.Ш.**: Так, перакладчыкам у натарыяльнай канторы.

**А.Х.**: Ёсьць попыт?

**А.Ш.**: У мінулым годзе, так. А пакуль, за верасень, зьвярнулася толькі адна жанчына.

**А.Х.**: І ці можна зарабіць тут на перакладах?

**А.Ш.**: Не, у Летуве, напрыклад, пераклад старонкі фармату А4 каштуе 5 даляраў. Тут ніхто столькі не заплоціць. Максымум – 300 тысячаў беларускіх рублёў. Аднойчы прыйшла адна бабулька і папрасіла перакласьці літаральна некалькі словаў. Браць грошы я адмовіўся, але яна не сыйшла, пакуль я не пагадзіўся атрымаць ад яе 10 тысяч.

**А.Х.**: Андрус, сумуеш па Радзіме?

**А.Ш.**: Так. Я люблю сваю Радзіму, чаго раю і вам. Тады будзе ў вас усё добра.


Падсілкавацца можна толькі на рынку ў спэкулянтаў



Ільля Глыбоўскі

# ПАБАЧЫЦЬ ГОРАДНЮ І ...ЖЫЦЬ ДАЛЕЙ

У свае 26 з паловай гадоў я быў у Горадні толькі праездам, калі ўначы аўтобусам ехаў на Беласток без прыпынкаў. І мне так карцела пасноўдацца па гэтым легендарным горадзе, што далей трываць ужо было немагчыма. Такім чынам, у пятніцу я сеў у цягнік і рушыў на Горадню.

Знаёмства зь местам пачалося з вакзалу, дзе мяне з ранку сустрэў Ганаровы Грамадзянін Горадні, знаўца мясцовай даўніны й сучаснасьці ды проста добры чалавек Павал Мажэйка. Ён адразу зьвярнуў маю ўвагу на мэмарыяльную дошку, прысьвечаную паўстанцам 1863 - 1864 гадоў, прымацаваную да сьцяны новага вакзалу (стары разбурылі некалькі год таму).

Потым было знаёмства са старой Горадняй, ейным замкам, Каложаю, музэем, Пагоняй на Грунвальд, старымі вулачкамі, мурамі й храмамі. Пасьля надыйшла чарга сучаснасьці, а гэта адзіны на Беларусі заапарк, добразычлівыя абывацелі, футбол, рэдакцыя газэты "Ліцэй плюс" і кавярня-бар "Батлейка" (ня блытаць зь лялечным тэатрам!). Таксама нам пашчасьціла пабачыць помнік (дакладней, бюст) А.Міцкевічу яшчэ да яго афіцыйнага адкрыцьця.

Але самае цікавае адбылося на наступны дзень, 25 кастрычніка. Ужо другі год запар у гэты дзень -- дзень сьмерці Віктара Каліноўскага -- гарадзенская (ды і ня толькі, бо прыяжджаюць зь Ліды, Ваўкавыску, Сьвіслачы, а ў гэты раз і зь Менску) моладзь, не зважаючы на свае палітычныя перакананьні, зьбіраецца ў ван-

дроўку да магілы Віктара Каліноўскага ў Сьвіслачы. Так было й гэтым разам. Пасьля ўшанаваньня памяці Віктара і ўсіх змагароў за волю Бацькаўшчыны моладзь рушыла да помнікаў Кастусю Каліноўскаму й Рамуальду Траўгуту ў Сьвіслачы.

Далей наш шлях ішоў да Якушоўкі, былога маёнтку Каліноўскіх. Тамака захаваўся падмурак сядзібы, дзе жылі Віктар і Кастусь Каліноўскія. Дарэчы, увесь шлях з намі была праўнучка Каліноўскага -- Ніна Каліноўская.

Пасьля расповедаў удзельнікаў раскопак і кансэрвацыі падмурку сядзібы надыйшоў час бардаўскай імпрэзы. На маляўнічым пагорку ў Якушаўцы, сярод яблынь-дзічак, вінішча й стала, які ламаўся ад тоны каўбасак, выступалі слынныя барды: Андрэй Мельнікаў, Віктар Шалкевіч, Валеры Жамойцін, Уладзімер Хільмановіч. У перапынках чытаў свае вершы Станіслаў Суднік зь Ліды. Але ўсё гэта была толькі разагрэўка перад выступам супэрзоркі грыфу й струн, вядомай далёка за межамі Беларусі — Валерыя Руселіка. Калі ён пачаў сьпяваць хіт сэзону “Мярзота чырвона-зялёная”, усе падхапіліся зь месцаў, пачалі ў экстазе гарлаць словы песьні так, што ўсё навакольле зь Беласточчынай разам трэслася, нібы нейкі агромністы волат танчыў сумесь гапака з кракавякам. Дарэчы, мясцовая мэтэастанцыя ў гэты час зафіксавала землятрус сілай 3,8 балу па шкале Рыхтэра. Гэта было круцей, чым “Забі сваю сям’ю” Шалкевіча (гл. “Навінкі”, N6).

Але, калі сур’ёзна, то мне шкада, што тая ж менская моладзь, у якой нашмат больш магчымасьцяў, ня ладзіць нечага падобнага. Звычай усё канчаецца міжпартыйнымі сваркамі, высьвятленьнем адносін і расейшчынай кшталту “сам дурак”. Дарэчы, гарадзенская моладзь ладзіць сьвяты бяз грошай замежных фундатараў, а толькі пры дапамозе мясцовых бізнэсоўцаў-мэцэнатаў, якія заўсёды радыя дапамагчы. Так, у гэты раз яны “праставілі” аўтобус і каўбаскі.

Яшчэ адна неспадзяванка падпільнавала мяне ў цягніку на Менск. Толькі я закінуў сзае марныя косткі ў вагон, як пабачыў у сваім купэ двух бадзяжных нацыяналюг, якія таксама цэлыя суткі бадзяліся па Горадні, каб троху забыцца на менскую мітусьню, хваробы й цяжарнасьць лепшых сяброў. І вы ведаеце?! Гэта ім дапамагло!!!

Так што прыяжджайце: горад Гродна, Савецкая 8.

Калі хто знойдзе гэты дом, то дам таму рубель!





Віктар МУХІН

# МЕСТА НАД *Кронам*

Вы ў Горадні былі? Улюблёны горад Сьцяпана Батуры, трэцяе па значнасьці места колішняе Рэчы Паспалітае вартае таго, каб заўтра ж сесьці на аўтобус ці цягнік, а празь нейкіх пяць гадзінаў апынуцца на крывых барокавых вулках, кожная зь якіх заканчваецца сьвятыняй альбо нейкай старасьвецкай камяніцай. І хоць за гады панаваньня саветаў гэтых самых камяніцаў паменшала ўдвая, аднак так і не ўдалося выветрыць дух, скапаць пад корань гэтае месца, у кожным кутку якога подых сівых муроў заглушае людзкую гаворку і роў аўтамабіляў. І ўжо зусім страчваецца адчуваньне сучаснасьці, калі зь вежы фарнага касьцёла загучыць звон з заклікам вернікаў на сьвятую імшу…

Таму я зусім не вагаўся, калі здарылася нагода наведаць Горадню…

**МЫ ЕДЗЕМ…**

Сеў у аўтобус і заснуў… Прачнуўся дзесьці пасярод дарогі зь Менску на Горадню. Зямля і ўсё, што на ёй стаяла ды расло, было пакрытае туманам. Праз хвілю з гэтага туману выплылі назвы дзьвюх вёсак: Юрацішкі й Біскупцы, што азначала – пачалася Заходняя Беларусь. І адразу ў вочы кінулася тая непадобнасьць, што розьніць гэты край ад усяго сьвету. Ахайныя падворкі дамоў і хатаў болей нагадваюць польскія краявіды, чымся “беларускія”, калі за ўзор браць усходнюю частку нашае краіны. Але адразу зраблю досыць істотную заўвагу – так можна казаць хіба што пра паўночна-заходнюю Беларусь, у дачыненьні да паўднёва-заходняе можна распачаць асобную гутарку. Вельмі прываблівающь невялічкія капліччкі пры дарозе, а таксама крыжы, аплеценыя ручнікамі – яны зрэдзьчасу мільгануць у акне й зьнікаюць, каб выплысьці праз колькі кілямэтраў. На пад’езьдзе да Горадні ўсё часьцей вясковыя ды мястэчковыя краявіды зьмяняюцца комінамі прадпрыемстваў ды гмахамі невядомага прызначэньня, але адначасова й дарога становіцца раўнейшая – няйнакш начальства пра сябе паклапацілася, напэўна, каб зь лепшчаў у свае кабінэты зручней было дабірацца. Але тымчасам непрыкметна зьнікае непаўторны заходнебеларускі калярыт, таму да самае Горадні нічога ня хочацца, акрамя як хутчэй у яе прыехаць.

**ПРАЗ ГОРАДНЮ Ў “ГРОД-НА”**

Калі ў Горадні Вы пастанавілі спыніцца ў гатэлі з амаль гэткаю ж назваю й ня можаце яго знайсьці, то прасьцей за ўсё выйсьці ад вакзалу да прыпынку й за-

пытацца. Не бянтэжцеся, калі пачуеце ад выпадковага дзядзькі нейкія трызьненьні пра канец сьвету ці яшчэ пра якую жудасьць. Сьмела рушце да першага ж мінака й пытайцеся ўсё, апроч ягонае асабістае адрэсы. Калі ж патрэбны транспарт знойдзены, то лепей за ўсё сядаць у першыя дзьверы, інакш прыйдзецца, як аўтару гэтых радкоў, праціскацца праз тоўшчу людзкое масы, а потым яшчэ разьбірацца, колькі каштуе адзін квіточак ды чаму нельга набыць па адным, а абавязкова па пяць ці па дзесяць. У рэшце рэшт, нават калі талёнчыкі набытыя, гэта йшчэ нічога не азначае. Істотна ведаць пра месцазнаходжаньне гатэлю. Калі на Вашае запытаньне адкажуць на Вашай мове, ня варта асабліва зьдзіўляцца – гэта натуральная рэч для Горадні. Таксама натуральная рэч – гэта беларуская мова з вуснаў адміністратаркі й амаль цалкам беларускамоўная рэкляма ды абвесткі на вуліцах гораду, таксама як "натуральна" выглядае адсутнасьць хоць бы адной беларускай школкі й нядаўна збудаваны мадэрновы польскі ліцэй у адным зь мікраёнаў Горадні... Уся гэтая беларусістыка заканчваецца ў ліфце, дзе ў канцы шыльдачкі з правіламі карыстаньня гэтым відам грамадзкага транспарту да пасажыра зьвяртаюцца: "Шануйце ліфт!"

Ня ведаю, чым кіраваліся супрацоўніцы гатэлю, калі засялілі мяне ў адзін пакой з... маскалём, з жывым расейцам, ды яшчэ з Уралу. Насамрэч то ён быў не такім ужо агрэсіўным, нават надзвычай ціхмяным, мо таму, што мы на розных мовах размаўлялі, а мо таму, што быў вельмі стомлены – гэта не істотна. Адно толькі моцна "дабівала" – расейскія мацюкі! Ужо ж пакараў іх Бог моваю... А мо й ня іх, а тых, хто змушаны ўсё гэта слухаць, а потым апісваць, як "широту русской души"...

**Плінфа**

Дзіўная назва гэтага разьдзелу хавае за сабой практычныя парады па наведваньні гістарычных мясьцінаў Горадні. Калі ў вас багата часу, дык ня варта трацiць яго на нудныя расповеды экскурсаводаў пра генэалёгію гарадзенскіх князёў, а лепей самім паблукаць па старым горадзе. Ня варта баяцца згубіцца ў пакручастых завулках, бо заўсёдным арыентырам зьяўляюцца вежы шматлікіх касьцёлаў і цэркваў, а калі яны схаваныя за галінамі дрэваў, дык кожная вуліца абавязкова выведзе Вас на нейкі пляц, а, як вядома, пляц – гэта месца, адкуль вядуць дарогі ўва ўсе бакі, то бок куды-небудзь ды выйдзеце.

Адно раю: калі ў вашага арганізму ня вельмі добрае стаўленьне да ня вельмі добрых пахаў, дык наведваньне пляцу Тызэнгаўза-Леніна, дзе на руінах Гарадніцы стаяць гмахі абл- ды гарвыканкаму, можа скончыцца трагічна – у лепшым выпадку шокам, а ў горшым лякарняй ці нават зацішнай мясьцінай на старых каталіцкіх могілках... Рэч у тым, што ўвесь пляц аплецены неверагоднай па памерах каналізацыйнай сыстэмай, якая любіць нагадваць пра сваю прысутнасьць шматлікімі люкамі, ну а зь люкаў вынікае ўсё астатняе...

Абавязкова наведайце гарадзенскі Стары замак, дзе не забудзьцеся зазірнуць у патаемныя мясьціны гэтага "помніку рэспубліканскага значэньня". Зараз ёсьць цудоўная магчымасьць палазіць па руінах Ніжняе царквы XII стагодзьдзя, ці пакорпацца ў старых замкавых казэматах, рупліва раскапаных менскімі й гарадзенскімі археолягамі.

З атракцыёнам "Супэр 8" можна параўнаць адчуваньні, што зьяўляюцца, калі стаіш на мурох былога замку Вітаўта – зь неверагоднае вышыні бацька-Нёман здаецца маленькай рачулкаю, а Горадня паўстае як на далоні.

Але лепей за ўсё разглядаць горад з двух месцаў: ад Занёманскае часткі гораду й з боку Каложы. Калі сонца заходзіць і асьвятляе муры старое сьвятыні, якраз пачынаецца набажэнства, а тыя, хто ўпершыню трапляе на высокі пагорак, дзе васямсот гадоў таму паўстала й была асьвечаная ў імя сьвятых Барыса й Глеба гарадзенская царква, сьпярша кідаюць вокам на непаўторныя барокавыя сылюэты гораду: стромыя дахі, вежачкі касьцёлаў, Стары й Новы замкі, Багаяўленскі манастыр…

І нарэшце пра плінфу. Ня мог не ўстрымацца, каб ня ўзяць сабе кавалак гарадзенскае даўніны, бо надта ж хацелася пакінуць сабе памятку пра горад-фэнікс, што нягледзячы ні на якія завірухі ўвесь час адраджаецца й застаецца ня менш прывабным ды таямнічым…

**ТАКОЕ МОЖА БЫЦЬ ТОЛЬКІ ТУТ**

Толькі ў Горадні можна ўбачыць расейскі касьцёл. Гэта ня плён багатае фантазіі, гэта яшчэ й сьведчаньне таго стану, у якім апынуліся беларусы. Няма ў Горадні беларускага касьцёла! Толькі па нядзелях з ласкі мясцовых гіерархаў ідзе імша па-беларуску, на якую зьбіраецца так шмат людзей, што палова наведнікаў мусіць стаяць. Ці ня сьведчыць гэта пра пагарду да беларусаў з боку касьцёла? Інакш цяжка зразумець тое, што дзеецца…

Калі я казаў пра гарадзенскае "Супэр 8", то не магу не сказаць пра "Найсупэровае супэр 8". Гэта мясцовыя тралейбусы, калі яны ляцяць па вузкіх вулках сярэднявечнага гораду. Дух займае, калі бачыш перад сабой толькі муры дамоў ды кляштараў, сярод якіх праносіцца на неверагоднай хуткасьці тралейбус. Для гарадзенцаў гэта штодзённая рэч – тудысюды езьдзіць па сваім цесным горадзе. А як быць жыхару сталіцы, дзе адна вуліца па шырыні роўная дзьвюмтром гарадзенскім?

І толькі ў Горадні можна напаткаць столькі набожных людзей, на імшу ў некалькі гарадзкіх касьцёлаў людзі ідуць паводле даўна заведзенае звычкі: так рабілі іхныя дзяды, бацькі, так мусяць рабіць іхныя нашчадкі. Варта толькі пашкадаваць, што касьцёл, апроч свае непасрэднае місіі, спаўняе яшчэ й ролю цэнтру палянізацыі. Менавіта з гэтага вынікае вялікая колькасьць "палякаў", што выплывае падчас кожнага перапісу жыхарства… Усё гэта пакідае ўвесь край у палоне мітаў, народжаных яшчэ ў міжваенным часе, адсюль тая невялікая колькасьць беларусаў у Горадні, што няздольная мець сваёй школкі, храму, сваіх суполак. Адзінкі, безумоўна, здольныя мяняць становішча, але ў Горадні гэта рабіць па-свойму цяжка, бо з аднога боку крычаць пра Польшчу ў межах 1939 году, а з другога пра СССР… Зь Менску ўсё выглядае нашмат прасьцей, але насамрэч гэта далёка ня так.

**ВЯРТАНЬНЕ**

Пасьля чатырох дзён, праведзеных у Горадні, нават ня хочацца вяртацца ў тлумны Менск. Але з другога боку — гэта вяртаньне дахаты – у вялікі, але, тым ня менш, улюблёны горад, ува ўласны дом на амаль "гарадзенскай" зацішнай вуліцы Беларускай, што ў самым цэнтры сталіцы. Горадня засталася ў мроях, ува ўспамінах, туды абавязкова некалі прыеду, бо інакш быць ня можа. Горадня – гэта часьцінка Эўропы, жывая сьведка даўніх падзеяў, гэта як утульная кватэра, дзе ўсё раскідана, але ў гэтым беспарадку пануе ўтульнасьць і невытлумачальная вабнота. І Вам, шаноўны чытачу, раю – наведайце Горадню, абяцаю, што расчараванымі не застаняцеся!

Ірына Екадумава

# Сэрбскім унівэрсытэтам –Прэзыдэнцкую вэртыкаль

*Апошнім часам Югаславія згадвалася ў нас як асяродак міжэтнічнага канфлікту, здольны стварыць падставу для ўзнаўленьня супрацьстаяньня пранатаўскіх і славянскіх дзяржаў. Натаўскае ўмяшальніцтва зрабілася доўгачаканай цукеркай для афіцыйных беларускіх ідэолягаў, якія не затрымаліся разгарнуць у дзяржаўных СМІ антынатаўскую прапаганду, скіраваную перш за ўсё на выхаваньне ў тутэйшага насельніцтва славянафільскіх пачуцьцяў. Гэта й нездарма. Прыяжджаў жа наш прэзыдэнт да калегі Мілошавіча, каб выказаць свае сымпатыі, ды нават сокалаў бэпээсэмаўскіх накіроўваў, каб тыя пасябравалі з моладзевым крылом прэзыдэнцкай Сацыялістычнай партыі Сэрбіі. Гісторыя, якая здарылася сёлета з тамтэйшымі ўнівэрсытэтамі, здалася ня надта гучнай, але ня менш сур'ёзнай па сваіх наступствах.*

З улікам апошніх нападкаў Мілошавіча на тамтэйшыя СМІ, крытычнага становішча ў Косава, эканамічных й сацыяльных праблемаў, жыхары Югаславіі не праяўлялі асаблівай цікаўнасьці да ўнівэрсытэцкіх справаў. Тым ня менш, у апошнія гады ўвасабленьне палітыкі югаслаўскага ўраду не абыходзілася бязь іхнага ўмяшальніцтва. А пачыналіся яны, як правіла, з унівэрсытэтаў. З 1991г., пасьля таго як сумеснымі намаганьнямі арміі й паліцыі былі задушаны сакавіцкія дэманстрацыі й быў арыштаваны будучы апазыцыйны лідар Вук Драшкавіч, вуліцы Бялграду былі занятыя студэнтамі. Разам з большасьцю сваіх выкладчыкаў, а пазьней з натоўпам іншых грамадзянаў, яны пратэставалі дзесяць дзён. У выніку Мілошавіч быў вымушаны вызваліць В.Драшкавіча й звольніць міністра ўнутраных справаў. Узімку 1996-97 гг., калі бялградзкія студэнты й прафэсары апратэставалі адмову Мілошавіча вызнаць вынікі муніцыпальных выбараў, дэманстрацыі доўжыліся тры месяцы, пакуль Мілошавіч не саступіў.

Цяпер наступіў рэванш, які першымі адчулі на сабе ўнівэрсытэты. Новы за-

кон аб унівэрсытэтах, прапанаваны сэрбскім урадам 9 траўня й прыняты хутчэй чым за месяц, пазбавіў іх аўтаноміі. Магчыма, што такім чынам С.Мілошавіч адрэагаваў на паслабленьне дыпляматычнага ўціску Захаду, які настойваў на заснаваньні ў сярэдзіне траўня штотыднёвых сустрэчаў яго прадстаўнікоў з альбанскімі лідарамі Косава. Улічваючы палажэньне ў Косава, неспакой у Чарнагорыі і ўнутраную апазыцыю, Мілошавіч вырашыў скасаваць асяродкі, спрыяльныя для спрэчкаў у краіне.

Урад імкнуўся зрабіць гэтую справу па магчымасьці цішэй. Але на гэта адразу ж адрэагавалі некалькі прафэсараў і студэнцкіх арганізацыяў. 19 траўня студэнты пачалі гуртавацца й зьбіраць 100 тысячаў подпісаў, неабходных дзеля спыненьня парлямэнцкай працэдуры прыняцьця гэтага закону. Яны выказвалі розныя меркаваньні: пачынаючы з такіх, што закон мусіць быць публічна абмеркаваны з удзелам зацікаўленых бакоў (г.зн. трэба параіцца з унівэрсытэтамі й факультэтамі, перш чым прымаць якія меры) да такіх, што закон трэба зьняць з разгляду, бо ён антыдэмакратычны й рэпрэсіўны наагул.




20 траўня была скліканая Унівэрсытэцкая Асамблея, якая дагэтуль зьбіралася ўсяго два разы. Асамблея прыняла рашэньне, што калі ўрад прыме закон аб унівэрсытэтах, то факультэты выйдуць на страйк. Спачатку студэнцкія дэманстрацыі ў Бялградзе й іншых унівэрсытэцкіх цэнтрах адбываліся без сутыкненьняў. 26 траўня адбылася сустрэча перад будынкам Сэрбскага парлямэнту падчас ягонай сэсіі. Сабралося недзе каля 2000 чалавек. Паліцыя пачала ўціск на студэнтаў, намагаючыся ўтрымліваць дэманстрантаў далей ад будынку парлямэнту, у выніку чаго пацярпела пятнаццаць чалавек.

Калі парлямэнт без асаблівых дыскусіяў прыняў закон, факультэцкія рады й прафсаюзы унівэрсытэтаў вырашалі, ісьці на страйк ці не. Гэта было ў чэрвені, якраз напярэдадні важнейшых у годзе іспытаў. Таму большасьць радаў аддалі перавагу іншым формам пратэсту. Адзіны факультэт, які выйшаў на страйк - вядомы за свае пратэсты яшчэ з 1968 году факультэт філязофіі.

Асобныя акцыі адбыліся на электронна-інжынэрным, матэматычным, эканамічным і іншых факультэтах. Астатнія ж студэнты ня выказалі сваёй пазыцыі, бо лічылі, што новы закон мае большае дачыненьне да прафэсуры, чым да іх. Акрамя гэтага, урад утаймоўваў студэнтаў адменай узрослай аплаты за навучаньне ды папраўкамі, якія ўдакладняюць экзаменацыйныя стандарты.

На гэты раз студэнты ня здолелі распаліць буйнейшых дэманстрацыяў ды атрымаць дадатковай падтрымкі. Рэшта грамадзтва захоўвала спакой. Апазыцыйныя партыі й сэрбская царква ледзь адгукнуліся: яны толькі запатрабавалі абароны інтэлектуальнай свабоды. Некаторыя палітычныя партыі падтрымалі пратэсты, але далей за заявы па СМІ справа не пайшла. Іншая калісь уплывовая сэрбская ўстанова, Акадэмія навук і мастацтваў, фактычна параіла выкладчыкам прыняць новы закон.

Закон уступіў у дзеяньне 5 чэрвеня. На працягу месяца была прызначаная адміністрацыя факультэтаў. Замест ранейшай структуры, якая прадугледжвала пэўную самастойнасьць унівэрсытэтаў, была ўтворана вэртыкаль: рэктараў і дэканаў прызначае ўрад, а тыя, у сваю чаргу, прызначаюць прафэсараў. Ад кабінэту Мілошавіча да прадстаўнікоў факультэтаў была наладжана сувязь, якая павінна забясьпечыць, каб выкладаць маглі толькі ляяльныя да рэжыму людзі. Ніводзін студэнцкі пратэст не атрымае больш унівэрсытэцкай падтрымкі. Намесьнік прэм'ера Тома Ніколіч, сябра крайне нацыяналістычнай "Сэрбскай радыкальнай партыі" (SRS), пагражаў звольніць выкладчыкаў, якія пойдуць на страйкі.

Адказнасьць за новы закон была падзелена з самімі ўнівэрсытэтамі: дзеля яго ўвядзеньня быў распрацаваны ўзор пагадненьня з прафэсурай. Шаснаццаць прафэсараў юрыдычнага факультэту Бялградзкага ўнівэрсытэту адмовіліся падпісаць праект пагадненьня. У іхнай агульнай заяве адзначана, што ён сфармуляваны як абяцаньне ляяльнасьці да рэжыму. Дэканы звольніліся й адмовіліся мець справы з палітычнымі прызначэнцамі. Некаторыя прафэсары кінулі сваю справу.

Галоўнымі органамі сэрбскіх унівэрсытэтаў зьяўляюцца Прэзыдэнт унівэрсытэту, Адміністратыўная рада й Наглядальны камітэт. Паводле новага закону былі ска-Студэнты і палітыкасаваныя дзьве структуры: Навукова-адукацыйная Рада ўнівэрсытэту ды ўнівэрсытэцкая рада, якая складалася толькі з прадстаўнікоў факультэтаў, а з 1992 г. і да апошняга часу — на палову з прадстаўнікоў ураду, якія часам маглі й ня мець унівэрсытэцкае адукацыі. Цяпер урад прызначае Прэзыдэнта ўнівэрсытэту без кансультацыяў з унівэрсытэтам. Адміністратыўная рада складаецца з 15 сябраў. Шэсьць зь іх працуюць па штаце й гэта не абавязкова выкладчыкі, тры -- студэнты. Гэтыя "прадстаўнікі" студэнцтва як правіла зьяўляюцца чальцамі кіруючых партыяў (пераважна Сацыялістычнай партыі Сэрбіі ці Левай Югаслаўскай партыі), і гэта ня лепшыя студэнты. Існуе таксама штосьці накшталт факультэцкіх радаў, якія кампэтэнтныя ў пытаньнях адукацыі, лекцыяў і навуковай працы, але яны ня маюць дачыненьня да выбару выкладчыцкага складу.

Урад прызначае дэкана факультэту, роля якога блізкая да ролі дырэктара прадпрыемства. Ён адзінаасобна абірае выкладчыкаў.

Будучы прадстаўнікамі кіруючых партыяў, прызначаныя дэканы наўрад ці будуць клапаціцца аб інтарэсах студэнтаў. Апошнія падзеі паказалі, што дэканы заняліся "чысткай" сваіх факультэтаў ад выкладчыкаў, якія ў свой час падтрымалі студэнцкія пратэсты ці былі актывістамі апазыцыйных партыяў.

Пахіснулася становішча студэнцкіх арганізацыяў. Новае кіраўніцтва факультэтаў рэдка жадае супрацоўнічаць зь якімі-кольвек арганізацыямі, бо добра ведае іхнае стаўленьне да закону й новапрызначэнцаў. Рэдакцыі студэнцкіх выданьняў мяркуюць, што пасьля выхаду іхных публікацыяў, якія, натуральна, будуць зьмяшчаць крытычныя артыкулы аб законе, новых адміністратарах і г.д., студэнцкія арганізацыі апынуцца ў стане адкрытай канфрантацыі з факультэцкім начальствам. Тыя, хто яшчэ мае офісы ўва ўнівэрсытэтах, застануцца без памяшканьняў і наагул апынуцца ў непрыдатных для працы ўмовах. Так, дэкан інжынэрна-электроннага факультэту Ўлад Тэадовіч растлумачыла, што калі які студэнт ці студэнцкая арганізацыя будзе супрацоўнічаць з замежнай фундацыяй, (усе фундацыі, паводле яе словаў -- агенты ўплыву), то яны будуць забаронены й выкінуты з факультэту.

Незалежныя СМІ Мілошавіч пакуль не перамог. Спробы прымусіць іх маўчаць праз адмову працягваць ліцэнзіі некаторых радыёстанцый і ўскладаньне надта вялікай платы на СМІ ні да чаго не прывялі. Асацыяцыя незалежных радыёвяшчальнікаў (ANEM) адкрыла моцны агонь і ўрад саступіў, вырашыўшы адмовіцца ад платы неліцэнзаваных радыё- і тэлестанцыяў. Але зараз шанцы якога-небудзь сур'ёзнага супраціўленьня нулявыя. С.Мілошавіч і яго хаўрусьнікі рыхтуюць палітычную чыстку. "Закон дазволіць нам пазбавіць некаторыя факультэты замежнага ўплыву й няўдалых палітыканаў, – заявіў лідар SRS Войслаў Шэшэль, — я добра паклапачуся, каб увайсьці ў праўленьне юрфаку Бялградзкага ўнівэрсытэту".

Жонка Мілошавіча, Міра Маркавіч, заявіла на адной з сустрэчаў сваёй партыі "Аб'яднаныя сэрбскія левыя", што наступныя чысткі будуць скіраваныя на адукацыйную сыстэму, выдавецкія кампаніі і ўстановы культуры. "Колькасьць СМІ, якія хочуць дэстабілізаваць грамадзтва, узрастае, – сказала яна, — а яны распаўсюджваюць разбурэньне й нянавісьць на іншыя важныя сфэры жыцьця: выдавецтвы, школы і ўнівэрсытэты, навуковыя ўстановы, месцы, дзе зьбіраецца моладзь з культурніцкімі мэтамі".



Наталя Арлова
Алег Гардзіенка

# ГУЛЬНЯ ЯК СРОДАК АДЫСЬЦІ АД ШТОДЗЁННАСЬЦІ

*альбо*

## *БЕЛАРУСКІЯ ІНТЭЛЕКТУАЛЫ: ХТО ЯНЫ?*

Згадзіцеся, адчуваеш пэўнае задавальненьне, калі бачыш, як шасьцёра разумных людзей, якіх клічуць замежным словам "інтэлектуалы", імкнуцца адказаць на вельмі складаныя пытаньні ў тэлевізійнай гульні "Што? Дзе? Калі?". Вось дзе накал барацьбы! Вось дзе эмоцыі! Вось дзе розум! Друзь, Бурда, Паташоў – іх імёны, знаёмыя ўсім…

Аднак "Што? Дзе? Калі?" – ня проста тэлешоў. Гэтая віктарына нарадзіла вялікі інтэлектуальны рух ня толькі на савецкай і постсавецкай прасторы. Міжнародная Асацыяцыя Клюбаў (МАК), створаная ў 1989 годзе, уключае ў сябе каманды зь Нямеччыны, Ізраілю, ЗША, Баўгарыі, Чэхіі і інш. краін. Рэгулярна адбываюцца буйныя чэмпіянаты ў Дортмундзе. Інтэлект – зьява міжнародная… Але, здаецца, нарадзіцца такая спачатку малапрагматычная гульня магла толькі ў славянскім асяродку. Да таго ж, у савецкі час сапраўдныя чалавечыя эмоцыі маглі знайсьці выйсьце толькі на футболе і ў праграме "Што? Дзе? Калі?", а таму ўся краіна зачаравана, страсна глядзела гэтае шоў. Не выпадкова, менавіта тут інтэлектуальны рух атрымаў вельмі значныя памеры.

Беларуская Ліга Інтэлектуальных каманд (БЛІК) – зараз другая па велічыні і значэньні асацыяцыя ў СНД. А пачыналася ўсё з двух маладых людзей – Леаніда Клімовіча і Валянціны Голубевай, якія ў 1981 годзе ўпершыню зьявіліся за сталом тэлегульні "Што? Дзе? Калі?" як прадстаўнікі Беларусі. Да канца 80-х гадоў гэтымі асобамі, уласна, справа і абмяжоўвалася. Усё зьмяніў адзін выпадак: 20 жніўня 1987 году ў лягеры камсамольскага актыву паспрабавалі арганізаваць турнір "Што? Дзе? Калі?", калі за стол у якасьці гульца патрапіў сярод іншых і юнак Яўген Зайцаў. Менавіта ён, адчуўшы смак гульні, ужо ўвосень таго ж 1987 году зарганізаваў чэмпіянат сваёй

школы сярод восьмых і дзявятых клясаў, у выніку якога ўтварылася першая і самая тытулаваная зараз менская каманда "Умник". Апошняя пачала езьдзіць па школах, ладзіла гульні, перамагала, назапашвала досьвед... Хутка яе ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што стварыць нешта больш сур`ёзнае і сталае, чым адна каманда, патрэбна ім самім. Таму з 1991 году пачалася праца ў розных школах, у выніку якой утварылася некалькі каманд (да ліпеню 1994 — пяць). Тады ў газэтах зьявілася аб`ява з запрашэньнем жадаючых да ўдзелу ў арганізацыі менскага клюбу. Пасьля гэтага колькасьць камандаў яшчэ павялічылася і 8 лістапада 1994 году адбыўся першы ў нас чэмпіянат па віктарыне "Што? Дзе? Калі?".

Найбольш даўнія саюзьнікі Менску ў інтэлектуальнай справе – каманда з гораду Дзяржынску "ЦК", якая ўтварылася яшчэ ў 1991 годзе. З таго ж году пачалі аб`ядноўвацца інтэлектуалы ў Гомлі, дзе асноўную працу праводзілі вядомы Леанід Клімовіч і Людміла Багданава, а праз некаторы час акрамя таго зьявіліся энтузіясты ў Віцебску, Берасьці, Магілёве, дзе пачалі ўтварацца ўласныя клюбы. Гомля ж, сапраўды, лічыцца адным з буйнейшых і старэйшых інтэлектуальных цэнтраў нашай рэспублікі. З 1993 году штогод тут адбываецца адзін з самых вядомых у СНД турніраў – "Кубак Палесься".

1995 год быў багатым на падзеі. У жніўні зборная Беларусі (у складзе тых самых энтузіястаў з розных гарадоў) брала ўдзел у тэлегульні "Брэйн-рынг" і здолела перамагчы самога Друзя. Крыху раней, у сакавіку, адбыўся першы тур "Кубку Несьцеркі" ў Менску. З таго часу гэтыя спаборніцтвы зрабіліся традыцыйнымі і праходзяць штовосень у сталіцы (25-26 кастрычніка 1998 году ў Менску адбыўся чарговы тур "Кубку Несьцеркі"). Акрамя таго, з 8 кастрычніка 1995 году на беларускім тэлебачаньні зьявілася свая тэлегульня – "Рызыка-вэрсія". А ў лістападзе на другім рэспубліканскім чэмпіянаце па "Што? Дзе? Калі?" сярод школьнікаў было прынята рашэньне аб неабходнасьці стварэньня БЛІК (Беларуская Ліга Інтэлектуальных Каманд). Гэтая арганізацыя была афіцыйна зарэгістраваная 6 чэрвеня 1996 году.

У тым жа 1995 годзе ў шэрагах інтэлектуалаў сваё ўласнае месца занялі дзіцячыя каманды, дзеля якіх пачалі праводзіцца асобныя ад дарослых турніры. Найбольш прэстыжныя зь іх – штогадовыя "Сакратаўскія гульні".

З 1996 году геаграфія камандаў-удзельніц БЛІК значна пашырылася. Да інтэлектуальнага руху пачалі далучацца акрамя абласных і раённыя цэнтры. Слуцак, Мазыр, Маладзечна, Ворша, Наваполацак, Рагачэў, Брагін, Сьветлагорск, Ліда, Ваўкавыск – гэта далёка ня поўны пералік гарадоў, дзе існуюць уласныя клюбы. Традыцыйнымі зрабіліся штогадовыя турніры "Кубак Палесься" ў Гомлі, "Кубак княгіні Вольгі" ў Віцебску, "Сакавіцкі леў" у Магілёве і, безумоўна, сталічны "Кубак Несьцеркі". Зусім нядаўна ў беларускіх інтэлектуалаў зьявіўся свой друкаваны орган — часопіс "ОБЛИК".

Беларускія каманды сталі абавязковымі ўдзельніцамі спаборніцтваў, што ладзяцца за межамі нашай рэспублікі (Санкт-Пецярбург, Мурам, Уладзімір і інш.). Цікава, як успрымаюць там нашых інтэлектуалаў? На гэтае і іншыя пытаньні мы папрасілі адказаць арганізатара і прэзыдэнта Менскага Клюбу Каманд Інтэлектуалаў, аднаго з кіраўнікоў БЛІК **Яўгена Зайцава**.

**Яўген Зайцаў**: Наконт адносінаў да БЛІК я адказаў бы так: з намі пачалі

лічыцца. Чаму пачалі? Справа ў тым, што першыя каманды, якія выяжджалі за межы Беларусі, адбіраліся па прынцыпе не найбольш разумных, а найбольш багатых (хто сам у стане аплаціць сваю вандроўку). З гэтае нагоды думкі пра ўзровень беларускіх інтэлектуалаў за межамі нашай краіны былі не зусім спрыяльныя. Аднак апошнім часам зьявілася магчымасьць рэальна памерыцца сіламі беларускім і расейскім камандам. І ў Расеі ўжо адчулі цяжкі поступ нашых інтэлектуалаў за сваёй сьпінай.

**Наталя Арлова**: Яўген, а зь якіх крыніц фінансуюцца мерапрыемствы БЛІК? Ці шмат знаходзіцца спонсараў?

**Я.З.**: БЛІК мае вельмі добрыя адносіны зь Дзяржаўным Камітэтам па справах моладзі Рэспублікі Беларусь, які выдаткоўвае пэўныя сродкі на нашыя мерапрыемствы. Аднак дзяржаўная падтрымка, як наркотык. Аднойчы атрымаўшы "за так" грошы, чакаеш іх зноў і зноў, а калі больш не атрымоўваеш, робіцца вельмі цяжка. Трэба ісьці і шукаць спонсараў. Але зараз створаны такія ўмовы, што гэтыя пошукі сталі вельмі складанымі. Хаця, трэба зазначыць, што для дзіцячых чэмпіянатаў спонсары знаходзяцца заўсёды. Што ж датычыць дарослых каманд, якія павінны самі шукаць сабе грошы на вандроўкі ў розныя гарады, дык іншага выйсьця як гэтае зараз няма. Зарабіць грошы на гульні немагчыма, бо для гэтага патрэбна, каб гульцы сталі прафэсіяналамі і займаліся толькі гэтым, а я не прыхільнік ператварэньня гульні ў бізнэс.

**Алег Гардзіенка**: Яўген, скажыце, як складваюцца адносіны БЛІК зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі, напрыклад, з БСМ, БПСМ?

**Я.З.**: Мы згодныя на супрацоўніцтва з усімі, але на парытэтнай аснове. БЛІК – асобная самастойная арганізацыя, якая ўвайшла ў склад заснавальнікаў Беларускай Рады Моладзевых Арганізацыяў, што я лічу за гонар. Менскі Клюб Каманд Інтэлектуалаў супрацоўнічае зь Беларускім Саюзам Моладзі. А ў Гомлі знаўцы маюць актыўныя стасункі нават з тамтэйшым БПСМ. Абумоўлена гэта тым, што ў склад кіраўніцтва апошняга ўвайшлі і некаторыя гомельскія інтэлектуалы. Былі прапановы па супрацоўніцтве ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, але гэтага не адбылося. Мы не займаемся палітыкай і ня згодныя рабіцца сродкам стварэньня на нас палітычнага капіталу. Дарэчы, аднойчы нашым спонсарам выступіў сам прэзыдэнт Рэспублікі Беларусі. Праўда, гэта адбылося, калі зборная каманда Беларусі ў 1995 годзе трапіла на маскоўскі "Брэйн-рынг". Ад апазыцыі, на жаль, прапановаў не было.

**Наталя Арлова**: Які горад на Беларусі зьяўляецца цэнтрам прыцягненьня інтэлектуалаў? І як складваюцца яго адносіны зь іншымі?



**Я.З.**: Яшчэ нядаўна я адказаў бы, што такіх гарадоў два: Гомля і Менск. Але вельмі хутка пачалі набіраць моц мой Віцебск і Магілёў. У якасьці ж галоўнага цэнтру інтэлектуальнага руху перавагу ўсё ж аддаюць Менску, і для гэтага ёсьць шэраг аб'ектыўных падстаў. Менскі клюб – больш буйны ў колькасных адносінах, да таго ж гэта геаграфічны цэнтар краіны, куды лягчэй дабірацца, акрамя таго, спрацоўвае стэрэатып сталіцы. Што ж датычыць суперніцтва зь іншымі гарадамі, дык яно, безумоўна, існуе, але гэта выключна спартовая канкурэнцыя. Нават калі кіраўнікі розных клюбаў маюць пэўныя праблемы ў міжасабовых зносінах, усе добра разумеюць, што робяць адну справу, а таму ніякіх сур'ёзных разладаў паміж клюбамі не ўзьнікае.

**Алег Гардзіенка**: Яўген, а якія адносіны складваюцца ў БЛІК з МАК? Вось калі ўявіць сабе такую непрыемную сытуацыю, што МАК больш не існуе, што тады будзе з БЛІК?

**Я.З.:** Беларуская Ліга Інтэлектуальных Каманд – частка МАК, але мы – самастойная арганізацыя. У нас свая ўнутраная структура, свае турніры, свая тэлегульня – "Рызыка-вэрсія" і г.д. Пасьля МАК мы другая па значэньні арганізацыя гэтага кірунку ў СНД. І калі нешта лясьне, БЛІК можа стаць тут новым інтэлектуальным лідарам. Такі патэнцыял у нас ёсьць. Аднак, шчыра кажучы, спадзяюся, што МАК нікуды ня зьнікне, бо гэта была б вялікая страта для ўсяго інтэлектуальнага руху. Аднавіць падобны ўзровень арганізацыі было б вельмі цяжка.

**Наталя Арлова**: Яўген, як Вы ставіцеся да ідэі стварэньня беларускамоўнай інтэлектуальнай лігі?

**Я.З.**: Пытаньне складанае… Я нічога ня маю супраць беларускай мовы, і яна зьяўляецца першай маёй мовай, аднак… Нікому ж не прыходзіць у галаву судзіць чыста ангельскую гульню бокс па-француску, ці гуляць у КВЗ па-нямецку… БЛІК зарыентаваная вонкі, мы – частка інтэлектуальнага руху, які нарадзіўся на расейскай мове. Вельмі сур'ёзныя праблемы ўзьніклі на Ўкраіне, калі частка чэмпіянатаў Лігі Ўкраінскіх Клюбаў пачала праводзіцца выключна на ўкраінскай мове. Па-першае, узьніклі складанасьці з фармулёўкамі пытаньняў, дзе кожнае слова павінна мець сваё дакладнае месца і сэнс. Па-другое, на ўкраінскія турніры больш не прыяжджалі замежныя каманды, што выклікала пэўную ізаляцыю ўкраінскіх інтэлектуалаў. "Што? Дзе? Калі?" не вызнае межаў, мы ня мусім зачыняцца ўнутры асобнай краіны, бо гэта можа прывесьці да выраджэньня інтэлектуальнага руху. Я цалкам за тое, каб выкарыстоўваць гульню для папулярызацыі беларускай мовы і культуры, бо ведаю, які моцны і дзейсны гэта сродак. Беларускамоўныя турніры маюць права на існаваньне, але яны не павінны быць адзінымі. Інтэлектуальны рух – зьява інтэрнацыянальная. (**Заўвага рэдакцыі**: на сёньняшні дзень на Беларусі не было праведзена ніводнага агульнарэспубліканскага беларускамоўнага турніру.)

Алег Гардзіенка: Спадар Зайцаў, Вы, як адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў БЛІК, якія б маглі вызначыць галоўныя праблемы ў беларускім інтэлектуальным руху?

Я.З.: Па-першае, вельмі сур'ёзнай праблемай зьяўляецца тое, што сама беларуская ліга ствараласся для падтрымкі каманд у добрай форме праз існаваньне здаровай канкурэнцыі. Аднак зараз, калі моцных каманд утварылася шмат, пачынаецца ўжо звышканкурэнцыя ў барацьбе за права ўдзелу ў замежных турнірах, што мае, безумоўна, адмоўныя вынікі

для ўсіх клюбаў. Другая праблема – гэта, натуральна, фінансы, і камэнтары тут не патрэбныя. А трэцяя, і зараз гэта, я мяркую, таксама значная праблема – адсотак страты добрых гульцоў пры пераходзе зь дзіцячага на дарослы ўзровень. Часткова гэта адбываецца таму, што моцная дзіцячая каманда, калі пераходзіць да больш высокіх і складаных дарослых умоваў, першы час абавязкова адчувае сябе тут звычайнай шараговай камандай. Надыходзіць пэўнае расчараваньне пасьля "зорнасьці" дзяцінства. Ня ўсе ў стане вытрымаць гэта.

**Наталя Арлова**: А ці ёсьць нейкія статыстычныя дадзеныя пра ўзроставы склад беларускіх інтэлектуалаў? Хто сярод іх пераважае?

Я.З.: Колькасна зараз больш асобаў да 18 год. Яны гуляюць у "дзіцячай лізе". Аднак гэта пасыўная катэгорыя. Найбольш актыўным пластом зьяўляюцца студэнты (18-23 гады). Але дзьвюма катэгорыямі не вычэрпваюцца шэрагі нашых інтэлектуалаў. Дастаткова адзначыць, што старэйшаму зь іх больш за 50 гадоў. Гэта Якаў Падольны з Гомлі, вядомы тэлегледачам па шоў "Свая гульня".

**Алег Гардзіенка**: Яўген, на Вашу дамку, чаму людзі прыходзяць у каманды і што гэта за людзі?

**Я.З.**: Напачатку гэта былі так званыя "белыя вароны", аднак іх пэрыяд ужо прайшоў. Зараз сюды прыходзяць людзі, якія жадаюць рэалізаваць сябе ў сацыяльным пляне, але зрабіць гэта там, дзе ёсьць магчымасьці знайсьці аб`ектыўную ацэнку сваім здольнасьцям. Гэта асобы, якія жадаюць адчуць, чаго яны сапраўды вартыя, і гульня дае гэты шанец.

**Наталя Арлова**: А ці можа гульня стаць сэнсам жыцьця?

**Я.З.**: Так. Гульня падзяляе жыцьцё на некалькі частак, яна дае адтуліну для эмоцыяў, магчымасьць адысьці ад штодзённасьці, адчуць самы смак жыцьця, а магчыма... і ягоны сэнс.

**Наталя Арлова, Алег Гардзіенка**: Дзякуй вялікі за інтэрвію.

P.S. ад Наталі Арловай і Алега Гардзіенкі: Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў ажыцьцяўляе падтрымку адной з удзельніц Беларускай Лігі Інтэлектуальных Каманд – каманды "Няміга", за што яму асобны вялікі дзякуй.

Ірына Екадумава



# КРОК НАПЕРАД - Два назад

Інваліды, вэтэраны, жанчыны, моладзь... Як адрасаты праграмаў сацыяльнага забесьпячэньня яны заўжды былі занядбанымі. Ну, ня маюць гэтыя групы вялікага ўплыву! Ды й ня групы гэта ніякія, а нейкія так званыя сацыяльныя катэгорыі. Вядома, складаюць іх жывыя людзі, якія, можа, і прызнаюць сьвядома сваю належнасьць да іх, але хіба што калі нейкая агульная праблема дапячэ ці хтосьці прызначыць ім якія даброты. А так адныя толькі іхныя прадстаўнікі ды ўпаўнаважаныя па іхных справах памятаюць аб іх існаваньні.

Асабліва не да гэтых катэгорыяў рабілася ўсім, калі вырашаліся істотныя для грамадзтва пытаньні. У такія часы нават моладзевыя арганізацыі ня надта сьпяшаліся лябіяваць інтарэсы тых, каму ад 18 да 25, ці імкнуліся павялічыць гэтае кола на тых, каму пад трыццаць. Чым больш палітызаванае грамадзтва, тым горш бачныя ўласна моладзевыя інтарэсы ў памкненьнях уплывовых арганізацыяў — будзь гэта нефармальнае моладзевае аб'яднаньне, ці кола ініцыятараў узнаўленьня дзяржаўнай канторы адпаведнай кампэтэнцыі.

Нездарма тэрмін няўдалага ўсталяваньня сыстэмы падсумаваньня й прадстаўніцтва інтарэсаў моладзі сканаў у пазалеташнюю весну. Гэта адзначылася скасаваньнем ролі парасонных арганізацыяў, пераключэньнем увагі адказных чыноўнікаў зь іхных лідараў непасрэдна да ўсіх тых, каго яны мусілі прадстаўляць. Якое дачыненьне мелі прадстаўнікі нейкай моладзі да разгортваньня працы па ўвасабленьні яе інтарэсаў? Ніякага. Тое, што цяпер прынята лічыць пачаткам новае моладзевае палітыкі дзяржавы, было працягам яе палітыкі ў дачыненьні грамадзянскай самадзейнасьці, ды часткова — рэакцыяй на вулічныя выступы вясной1996 г. Менавіта тады бе-ларускі прэзыдэнт гучна выказаўся аб жаданьні ў рэшце рэшт разабрацца, чаго ім трэба.

17 чэрвеня 1996 г. А.Лукашэнка склікаў у Адміністрацыю чыноўнікаў па моладзевых справах ды лідараў ад грамадзкасьці. Чатыры гадзіны даймаў ён аўдыторыю: скардзіўся, што не знаходзіць падтрымкі сабе сярод моладзі, асабліва студэнтаў, ня можа ўлавіць сыстэмы моладзевых арганізацыяў. «Кто должен организовывать все это? Я, что ли?» Зрабіўшы наганяй прысутным, прэзыдэнт выказаў сур'ёзны намер узяцца за выхаваўчую працу й шчыра ўзнагародзіць тых, хто яму ў гэтым дапаможа. Неўзабаве выйшаў указ «Аб першачарговых мерах па рэалізацыі дзяржаўнай моладзевай палітыкі».

Так слова прэзыдэнта ўсё й зрушыла. Занядбаны калісьці Камітэт па справах моладзі пры Міністэрстве адукацыі атрымаў статус міністэрства, салідную назву «Дзяржаўны камітэт» і штат у дваццаць дзьве асобы. Потым быў рэфэрэндум, які «положил конец разброду и шатаниям в моло-

дежной политике», а ўжо ў 1997 годзе старшыня Дзяржкамітэту А.Пазьняк абвясьціў аб трох кітах дзяржаўнай моладзевай палітыкі Беларусі: нарматыўнай базе, структуры органаў па працы з моладзю й адпаведных сродках.

Ні ранейшая дзейнасьць Камітэту па справах моладзі пры кебічаўскім Савеце міністраў, ці Мінадукацыі, ні ўрадавыя напрацоўкі, ні вынікі сустрэчаў, форумаў, канфэрэнцыяў сумесных з парасоннымі арганізацыямі, якія адбываліся да лета 1996 г., да цяперашняй моладзевай палітыкі ніхто ня прычыняе. Яны былі хіба што яе перадгісторыяй, бо на вышэйшым узроўні тады ніхто яшчэ ня быў у ёй зацікаўлены.

Тое, што рабілася надалей, А.Пазьняк назваў крокам наперад. Кропкай адліку ён, пэўна, лічыў пачатак уласнае працы ў гэтым рэчышчы, які супаў з пачаткам новай моладзевай палітыкі. Некаторую недарэчнасьць у ёй ствараюць былыя партнэры Дзяржкамітэту — моладзевыя арганізацыі, якія не пажадалі ўключыцца ў адзіны ў краіне моладзевы саюз. Ад іхнага ўплыву прыйшлося пазбаўляцца паступова. Дзяржкамітэт вітае супрацоўніцтва зь любымі арганізацыямі пры адной ўмове — «канструктыўна». Інакш кажучы, на карысьць пануючай уладзе.

А як жа па-іншаму? Хто грошы дае, той і замаўляе музыку, дарма што грошы дзяржаўныя з грамадзянаў бяруцца. Дзеля кіраваньня моладзевым рухам Дзяржкамітэт «дае сацыяльную замову» моладзевым аб'яднаньням ды адпаведным чынам арыентуе незарганізаваную ні ў чым моладзь. Гэнае рэгуляваньне будзе спрыяць таму, каб адпаведныя людзі бралі верх унутры незалежных арганізацыяў ды нэўтралізавалася тая стыхійная ідэалягізаванасьць. Натуральна, што лідары непалітычных арганізацыяў лёгка пераконваюцца прагматычнымі аргумэнтамі, а там да іх можна будзе й дзяржаўную ідэалёгію даводзіць.

Больш за тое, камітэт бывае вымушаны займацца ідэалягічным загрузам маладога насельніцтва. Хаця й не ягоная гэта справа, але БПСМ часам правакуе. У выніку, акрамя старых знаёмых арганізацыяў, да супрацоўніцтва зь дзяржавай прываблiваюцца толькі тыя групы, якім не прынцыпова, ад якога імя працаваць, абы выжыць. І дастаткова будзе БПСМу пры ягоным фінансаваньні заплянаваць аналягічную іхнай акцыю там, дзе яны дзейнічаюць, каб яны адчулі, што прасьцей ім будзе працаваць пад ягоным дахам. Адна справа камсамольскі нашчадак па маёмаснай лініі БСМ, які ідзе на гэткае аб'яднаньне неахвотна, а іншая — драбнейшыя мясцовыя гурткі, клюбы, студыі, розныя незарэгістраваныя групы.

Але пакуль БПСМ ня зробіцца адзінай у Беларусі моладзевай арганізацыяй, Дзяржкамітэту нічога не пагражае. Калі такое здарыцца, то з кім працаваць ягоным чыноўнікам? З моладзю ця безь яе, ім заўжды справа знойдзецца. Таму яны будуць зьдзяйсьняць няхай сабе антымоладзевую, але прэзыдэнцкую палітыку. Абы кіраўніцтва было задаволена. У крайнім выпадку яго ізноў перападпарадкуюць, можа нават часткай лукамолу зробяць, але часткай паважанай. Гэта пакіне ім працу «вышэйшага парадку» — напісаньне праграмаў, каардынацыю зь іншымі ўстановамі.

Пасьпяхова такая сыстэма ўсталюецца, ці не — сапраўдныя ініцыятывы зьнізу ўсё роўна будуць падтрымлівацца дзяржавай такім чынам, каб не замінаць сёньняшняму парадку. Патрэбы моладзі будуць вызначацца ў кулюарах, ніжэйшыя ж ступені стануць выканаўцамі. Ня трэба толькі спадзявацца, што гэта шмат ім прынясе, бо ўсё даўно разьмеркавана. Нават першасныя структуры БПСМ пачалі скардзіцца, што ЦК іх недакормлівае.

Такім чынам, не на асобу зарыентаваная дзяржаўная моладзевая палітыка, якую так хваляць яе штатныя выканаўцы, а на масы. Вядома, статкам кіраваць прасьцей, але ці гэта вам патрэбна? Калі вырашэньне праблемаў моладзі — гэта навязваньне ёй пэўных поглядаў ды паводзінаў, без жаданьня яе слухаць, то аптымізм выканаўцаў такіх рашэньняў не азначае нічога добрага. Гурткі, тэатры, пазашкольная дзейнасьць, трэнінгі для лідараў, інфармацыйныя й кансультацыйныя службы, арганізацыя вольнага часу... Гэта ўсё добра, але сыстэма іх працы будуецца наўмысна неэфэктыўна. Цікава толькі, хто й як будзе яе потым перабудоўваць?

## ГІСТОРЫЯ АДУКАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ

*/працяг. Пачатак у №6/*

**Зьміцер Вайцяховіч**

# БРАЦКІЯ ШКОЛЫ

Брацкія школы пачалі ўзьнікаць пры праваслаўных брацтвах напрыканцы XVI стагодзьдзя, спачатку на Беларусі, а потым і на Ўкраіне. Першае праваслаўнае брацтва ўзьнікла ў 1458 року ў Вільні. Да канца XVI стагодзьдзя яны існавалі ўжо ва ўсіх буйных местах Беларусі й нават у некаторых мястэчках. У Менску, напрыклад, у XVI-XVII стагодзьдзях існавала сем праваслаўных брацтваў. Сярод іх былі й спэцыяльныя брацтвы для моладзі, якія, праўда, падпарадкоўваліся старэйшым брацтвам і зьяўляліся іх своеасаблівымі філіямі. Віленскае юнацкае брацтва, напрыклад, называлася "Студэнцкая кангрэгацыя сьвятых Канстанціна і Алены". Брацтвы ўяўлялі сабой царкоўна-палітычныя аб`яднаньні праваслаўнага насельніцтва, якія ставілі сваёй задачай пасьпяховае супрацьстаяньне напачатку каталіцкай і пратэстанцкай цэрквам, а пасьля і ўніяцкай. У пэрыяд свайго росквіту брацтвы былі моцнымі арганізацыямі, якія ў некаторых выпадках здолелі дамагчыся незалежнасьці нават ад праваслаўнага царкоўнага кіраўніцтва.

Зьяўленьне пры брацтвах школаў было выклікана ў першую чаргу патрэбай у вялікай колькасьці адукаваных людзей, а таксама абвастрэньнем канкурэнцыі паміж хрысьціянскімі канфэсіямі. У сярэдзіне XVI стагодзьдзя дасягнула свайго росквіту пратэстанцтва, і краіну пакрыла шырокая сетка пратэстанцкіх школаў. З дапамогай езуітаў выйшлі на якасна новы ўзровень каталіцкія школы /калегіюмы, унівэрсытэты/. З-за агульнай коснасьці праваслаўя, праваслаўныя школы безнадзейна адставалі ад канкурэнтаў. Гэта, натуральна, прыводзіла да зьніжэньня ролі праваслаўнай царквы ў жыцьці краіны. Выйсьце з гэтай сытуацыі было знойдзена ў рэформе школьнай адукацыі.

Першая брацкая школа была ўтвораная пры Віленскім праваслаўным брацтве ў 1584 року. Гэтая школа зьяўлялася галоўнай брацкай школай у Вялікім Княстве й пакінула пасьля сябе яскравы сьлед у гісторыі, таму на ёй і засяродзім асноўную ўвагу.

Амаль ад самага пачатку школа месьцілася ў двух мураваных будынках, а ў XVI-XVII стст. быў пабудаваны й трэці. Будучы заснаванай першай, гэтая школа была пачынальніцай шмат у якіх справах. Яна першая сярод брацкіх школаў пачала выкарыстоўваць у навучаньні друкаваныя кнігі. Праўда, школа мела манапольнае права на друкаваныя кнігі і вялікую друкарскую базу (дзьве друкарні — у Вільні і Еўі).

На мяжы XVI-XVII

стст. у школе склаўся выдатны настаўніцкі калектыў. У ёй працавалі такія славутыя дзеячы беларускай культуры, як браты Зізаній і Мялеці Сматрыцкія. Вядомых грамадзкіх дзеячаў школа прываблівала наяўнасьць друкарняў, што па тым часе было вельмі істотна. Акрамя таго, кіраўніцтва Віленскай брацкай школы запрашала немцаў, якія выкладалі тут лацінскую мову. Каб працаваць у школе, мала было мець адпаведную адукацыю. Кожны прэтэндэнт на месца выкладчыка праводзіў некалькі кантрольных заняткаў, на якіх прадстаўнікі брацтва высьвятлялі ягоныя настаўніцкія здольнасьці. Акрамя гэтага, ён мусіў быць прыкладам для вучняў як чалавек і хрысьціянін. Калі ж выкладчык у будучым пераставаў адпавядаць патрабаваньням брацтва, дык яго ня толькі маглі пазбавіць працы, але нават забараніць жыць у дадзенай мясцовасьці. Але, вядома, жыцьцё ўносіла свае карэктывы. Нярэдка выкладчыкаў не хапала, здаралася, што спынялася выкладаньне асобных дысцыплінаў.

За адукацыю ў гэтай школе часьцей за ўсё даводзілася плаціць. У сярэднім плата складала 12 грошай. Аднак, калі бацькі аддавалі ў школу двух сваіх сыноў, за другога плацілася ўдвая менш. Таксама практыкавалася аплата натурай /харч, мяхі і г.д./. Зрэдку бясплатнай была адукацыя для бедных і жабракоў. Для тых жа жабракоў і сіроткаў існавалі пры брацкіх школах бурсы. Студэнты ж сярэдніх і старэйшых клясаў зараблялі грошы рэпэтытарствам.

Брацкія школы падзяляліся на два тыпы: элемэнтарныя й павышаныя. У школах павышанага тыпу давалася сярэдняя адукацыя. Але іх было вельмі мала, і яны нават кольказна не маглі канкураваць з каталіцкімі й пратэстанцкімі сярэднімі школамі. Куды болей было брацкіх школаў элемэнтарнага тыпу. Але адукацыйны ўзровень у іх быў ня надта высокім. Як правіла, яны абмяжоўваліся царкоўнаславянскай, грэцкай і беларускай /зрэдку лацінскай/ мовамі ды царкоўнымі сьпевамі.

Каб весьці гаворку пра школы павышанага тыпу, зноў зьвернемся да Віленскай брацкай школы. Яна была лепшай сярод брацкіх школаў на Беларусі, і, магчыма, толькі ў ёй давалася поўная сярэдняя адукацыя ў межах Вялікага Княства, калі мець на ўвазе брацкія школы. У Віленскай ды яшчэ ў Берасьцейскай і Магілёўскай школах найбольш поўна выкладаліся сем вольных навукаў: граматыка, рыторыка, дыялектыка, арытмэтыка, геамэтрыя, астраномія і музыка. Акрамя гэтага, вывучаліся царкоўны статут, сьвятое пісаньне, пяць моваў /беларуская, царкоўнаславянская, грэцкая, лацінская, польская/, жыціі сьвятых і г.д. Але адныя толькі назовы прадметаў мала пра што гавораць. Пра агульны ўзровень адукацыі можна меркаваць толькі па ўзроўні выкладаньня асобных дысцыплінаў, а ўзроўні былі даволі розныя. Так, курс дыялектыкі будаваўся на творах Плятона, Арыстотэля, Цыцэрона, Сэнэкі й Эпікура, а выкладаньне астраноміі абмяжоўвалася знаёмствам з ужо безнадзейна састарэлай тады пталемэеўскай сыстэмай пабудовы сьвету. Заняткі па музыцы, напрыклад, зводзіліся да царкоўных сьпеваў. Але ўсё ж агульны ўзровень быў досыць высокі, бо ў Віленскую школу ехалі вучыцца нават з Украіны, дзе хапала сваіх брацкіх школаў.

На чале кожнай школы стаяў рэктар. У дапамогу яму брацтвамі прызначаліся дазорцы. Узроставыя абмежаваньні вучняў вагаліся ад 8-9 да 20-25 гадоў. Штотыднёва з навучэнцаў абіралася 2-4 дзяжурных. Яны сачылі за парадкам у школе і царкве. Лепшыя са старэйшых вучняў дапамагалі настаўнікам

у навучаньні малодшых навучэнцаў. Дысцыпліна была вельмі строгай. Так, напрыклад, за пропуск двух дзён без уважлівых падстаў маглі выгнаць са школы. Лепшых вучняў брацтвы за свой кошт накіроўвалі ва ўнівэрсытэты й калегіі.

Зьвернемся да самога навучальнага працэсу. Напачатку ў брацкіх школах пераважала індывідуальная форма навучаньня, што дазваляла вучням паступаць у іх у любы час. Паступова замацоўваюцца і становяцца асноўнымі калектыўныя формы заняткаў. Гэта й зьявілася прычынай узьнікненьня дакладнай даты пачатку заняткаў для ўсіх вучняў – 1-га верасьня. Навучальны год складаўся з чатырох кварталаў і цягнуўся да канца чэрвеня. У ліпені й жніўні — вакацыі. Спачатку ў брацкіх школах не было падзелу на клясы. Новы вучань мог вывучаць любы прадмет на выбар. Але ўжо з пачатку XVII стагодзьдзя зьявіліся клясы накшталт клясаў у езуіцкіх калегіях. У аснову разьмеркаваньня вучняў па клясах былі пакладзены два прынцыпы: 1.моўны – больш агульны, які вызначаў школу \беларуская, славянская, лацінская\; 2. клясны – адпаведны ўзроўню авалодваньня ведамі ў кожнай з школаў. У большасьці брацкіх школаў было па тры клясы, у Віленскай – пяць. Тэрмін навучаньня ў кожнай клясе ня быў дакладна вызначаны. Звычайна, у брацкіх школах было так: у пачатковай клясе – два рокі; у кожнай з граматычных клясаў — па адным, і па тры рокі ў клясах паэтыкі й рыторыкі, калі рыторыка сумяшчалася з дыялектыкай. Існаваньне тых альбо іншых клясаў залежала ад наяўнасьці выкладчыкаў і матэрыяльных магчымасьцяў брацтва.

Заняткі падзяляліся на ранішнія й пасьляабедавыя. У пачатковай клясе яны цягнуліся па дзьве гадзіны да й пасьля абеду, у старэйшай – адпаведна па чатыры. У школу вучні прыходзілі а дзявятай гадзіне раніцы /у зімовыя й халодныя дня пазьней/ і займалі свае месцы, замацаваныя за вучнямі ў адпаведнасьці зь іх посьпехамі. Заняткі пачыналіся з малітвы. Потым кожны вучань адказваў зададзены асабіста яму ўрок і паказваў выкананае хатняе заданьне. Пасьля настаўнік тлумачыў новы матэрыял, і вучні адразу для лепшага засваеньня выконвалі шэраг практыкаваньняў. Затым запісвалі хатняе заданьне, вучылі ўрокі, задавалі пытаньні й правяралі адзін другога пад наглядам настаўніка. Дзень сканчаўся малітвай. Дома вучні мусілі распавесьці бацькам вывучаны ўрок ды паказаць выкананае хатняе заданьне. Па суботах праводзілася праверка пройдзенага за тыдзень матэрыялу. Асаблівая ўвага ў гэтыя дні надавалася рэлігійнаму выхаваньню. Вяліся размовы пра Бога, сьвятых, пра прызначэньне чалавека ў сьвеце і г.д. Абавязкова наведвалася царква.

У канцы XVI—пачатку XVII стст. у брацкіх школах акрамя рэлігійнай літаратуры для навучаньня выкарыстоўваліся шматлікія граматыкі й лемантары, якія былі ўжо сапраўднымі падручнікамі. Сярод іх асабліва вызначалася граматыка, напісаная славутым беларусам М.Сматрыцкім у 1619 року. Гэты, напісаны на царкоўнаславянскай мове, падручнік быў настолькі ўдалым, што, напрыклад, у Маскоўіі ім /альбо яговарыянтамі/ карысталіся ажно да другой паловы XVIII стагодзьдзя.

Тым ня менш, нягледзячы на ўсе дасягненьні брацкіх школаў, яны ўсё ж не вызначалі агульны ўзровень адукаванасьці беларускага грамадзтва. Праваслаўныя брацкія школы, безумоўна, садзейнічалі распаўсюджваньню адукацыі на Беларусі, але, хутчэй, колькасна, чымся якасна.

*працяг у наступным нумары*

*У 1946-1947 гг. у Баранавіцкім рэгіёне дзейнічала маладзёвае антыбальшавіцкае падпольле.*

РАВЯКА РУСЛАН

# Баранавічы

## "Чайка". 1946 год.

Пасьля вайны ў Заходнюю Беларусь для ўмацаваньня савецкай сыстэмы пачалі дасылаць людзей з Усходу. Яны прызначаліся на ўсе кіруючыя пасады і, зразумела, што зь іх зьяўленьнем пачалася русіфікатарская палітыка й наступ на беларускую мову і культуру. Сапраўдныя патрыёты бацькаўшчыны ўсьведамлялі, чым пагражае Беларусі ігнараваньне нацыянальнага фактару камуністамі. У розных мясьцінах Заходняй Беларусі пачалі ўтварацца антысталінскія і антыкамуністычныя падпольныя групоўкі.

Пасьля прыходу савецкіх войск практычна ўсе настаўніцкія сэмінарыі, адчыненыя за немцамі, былі ператвораны ў пэдінстытуты. Яшчэ ў 1944-1945 гадох выкладаньне вялося на беларускай мове ва ўсіх навучальных установах. Але ўжо ў 1946 годзе пачалася паступовая русіфікацыя школаў. Да таго ж прымусова беларускую моладзь пачалі вывозіць у Сібір і цаліну.

Вясной 1946 году на Слонімшчыне сабраліся некалькі сяброў, былых навучэнцаў Слонімскай настаўніцкай сэмінарыі, якія вырашылі стварыць падпольную групу. Ініцыятарамі былі Васіль Супрун, Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын.

Падрыхтоўка да ўстаноўчага сходу вялася старанна і цягнулася да вясны. Васілём Супруном былі падрыхтаваны праграмы дзейнасьці падпольля, структурныя схемы кансьпірацыі.

У траўні 1946 у Слоніме на канале Агінскага быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім акрамя вышэйзгаданых прысутнічалі Аляксандар Гардзейка, Лёдзя Кавальчук і Ніна Карач. Быў абраны кіраўнік групоўкі – Васіль Супрун і вызначаны асноўныя накірункі дзейнасьці. Арганізацыя павінна была займацца толькі культурна-асьветніцкай дзейнасьцю, а не тэрорам. Дзеля кансьпірацыі групу назвалі "Чайка", бо якраз гэтая птушка лётала над дрыгвой.

Ракевіч пачаў зьбіраць групу ў Берасьцейскім чыгу-

начным тэхнікуме, Чыгрын – у Жыровіцкім тэхнікуме. Гардзейка быў арганізатарам у Слоніме. Васіль Супрун накіраваўся ў Баранавічы, дзе ў настаўніцкім інстытуце вучыўся яго сябра па Слонімскай сэмінарыі Ўладзімер Салавей.

“У Баранавічах вучылася тры чалавекі з нашай сэмінарыі”, - успамінае Васіль Рыгоравіч Супрун. – «Першы раз, калі прыехаў, да-вялося начаваць у Баранавічах, бо позна ўвечары, у інстытуце, чытаў свае вершы нейкі баранавіцкі паэт. Давялося чакаць ранку, каб пагутарыць з Салаўём».

У размове зь ім было прапанавана знайсьці сярод студэнтаў сьвядомых беларусаў дзеля стварэньня беларускай групы. Дамовіліся сустрэцца праз тыдзень, ужо для абмеркаваньня кандыдатур. Аднак Уладзімер Салавей здолеў стварыць групу значна раней. Хлопцы жадалі дзейнічаць і патрабавалі ад Салаўя сустрэчы з Супруном.

Недзе праз тыдзень Васіль Супрун разам зь Міхасём Ракевічам у нядзелю прыехалі ў Баранавічы. Васіль Рыгоравіч Супрун цяпер так узгадвае тыя падзеі: “У Баранавічах нас, як і дамаўляліся, сустрэла група з 4-х чалавек – Аляксандар Барэйка, Міхась Агейка, Аляксандар Шапавал і Ўладзімер Салавей. Здаецца, амаль усе з-пад Наваградку. Яны ўважліва сачылі за нашымі рухамі і словамі. Адчувалася насьцярожанасьць. Асноўная ўвага зьвярталася на мяне…

…Мы сабраліся на купінцы з сасонак побач з Палескім вакзалам (каля маста) на траўцы. Гэтыя дрэвы і цяпер засталіся невысокімі і нейкімі карчаватымі. Але тамака не было як паразмаўляць, бо побач вакзал і каля нас увесь час хадзілі людзі.

Хлопцы параілі пайсьці ў лясок, я не зусім арыентаваўся ў Баранавічах і толькі пасьля даведаўся, што гэта быў Стары парк, побач зь якім была радыёстанцыя. Мы знайшлі ціхі куточак і там правялі сустрэчу…

Мне спадабаўся Барэйка Саша. Высокі, стрыманы, самы адказны зь іх. Шапавал шмат гаварыў, але ў мяне ня выклікаў даверу.

Барэйка і быў абраны галасаваньнем намесьнікам.

…Хлопцаў цікавіла ўсё: пэрспэктывы, пляны, існаваньне іншых груп. Я праінфармаваў, што створаны групы ў Берасьці і Жыровічах, што сувязі з замежжам няма.

Абралі склад кіраўніцтва. Старшынём стаў я, намесьнікамі: ад Баранавіч – Аляксандар Барэйка, ад Слоніму – Міхаіл Ракевіч.

Было дадзена заданьне асьцярожна выйсьці на Наваградак. У рамках кансьпірацыі пацiху пашыраць нацыянальную сьвядомасьць моладзі, выходзіць на іншыя раёны…

…Пасьля сустрэч у Баранавічах было шмат, але ў асноўным з Барэйкам. Пазьней у тых жа Баранавічах сустракаліся таксама з Маковічам зь Берасьця, але зь ім ужо ў новым – Маладым парку, толькі тады насаджаным…”

Меней чым за месяц падпольле выйшла далёка за межы Слонімскага раёну. Каб неяк каардынаваць свае дзеяньні, узьнікла патрэба стварэньня Цэнтру Беларускага Вызваленчага Руху (ЦБВР). Яго кіраўніком абралі В.Супруна. Намесьнікам па арганізацыйнай працы – А.Барэйку з Баранавіч. Адказным за ваенізаваны рух – М.Ракевіча. Дарадчымі сябрамі Цэнтру сталі: Міхаіл Макарэвіч – кіраўнік Берасьцейскага абласнога падпольля, Міхась Агейка – ад Баранавіцкай інстытуцкай групы, Уладзімер Салавей – ад слонімскіх групаў.

“Была распрацавана колавая схема кансьпірацыі: з цэнтрам была зьвязана абласная група (1-е кола), вакол абласной гуртаваліся раён-

ныя групы (2-е кола), тыя ж у сваю чаргу былі зьвязаныя з пэрыфэрыяй (3-е кола)...” – успамінае В.Р.Супрун.

Акрамя канспірацыі, была прадугледжана й кансэрвацыя падпольля. Пры стварэньні надзейнай падпольнай сеткі ў асобным рэгіёне група павінна была быць закансэрвавана да больш спрыяльных умоваў. Не дазваляліся ніякія праверкі.

Кіраўнік ЦБВР Васіль Супрун меў кантакты толькі з Барэйкам і Ракевічам. У большасьці выпадкаў сустракаліся ў Баранавічах.

Супрун распавядае: “У Баранавічы я адзін, ці з Ракевічам езьдзілі таварнякамі на страсе, ці між бярвеньняў, альбо ў тамбурах, але з апошніх зганялі.

На Баранавічах-Палескіх у 1946 годзе не было вакзалу. Быў шчытавы барак.

Памятаю, неяк падчас прыезду на сустрэчу была страшэнная гразюка. Каб неяк прайсьці, на станцыі былі пракладзены трапы. У той час на Ўкраіне быў страшэнны голад. У Заходняй Беларусі было шмат бежанцаў. Увесь барак Палескіх быў забіты слабымі пухлымі людзьмі, якія ляжалі на падлозе амаль нерухомыя. Самае жахлівае, што некаторыя валяліся на двары ў брудзе. Ідзеш і бачыш, ляжыць чалавек – палова галавы, палова твару ў гразі. Гразі месцамі было па калена. Ляжалі з такой грымасай надыходзячай сьмерці”.

Пра такое ў савецкіх падручніках не пісалася.

Летам 1946 пачалі ўтварацца групы на Піншчыне і Маладзечаншчыне.

У верасьні ЦБВР стала вядома пра падпольную групоўку ў Наваградку, якая мела назву Саюз Беларускіх Патрыётаў. Але з-за дрэннай яе канспіраванасьці было катэгарычна забаронена ладзіць з Наваградкам якія-небудзь кантакты.

Вядома, што недзе ў гэты час М.Ракевіч у Берасьцейскім чыгуначным тэхнікуме друкаваў антысавецкія ўлёткі. З гумы выразаліся літары, пасьля складаліся ў словы і адбіваліся на паперы.

Не атрымалася ў пачатку 1947 году стварыць групы ў Менскіх фізкультурным і пэдагагічным інстытутах, а таксама ў Гарадзенскім пэдінстытуце. У Горадні адчувалася існаваньне польскага падпольля.

У гэты ж час нехта з баранавіцкай групы ўсё ж такі выйшаў на наваградзкі Саюз Беларускіх Патрыётаў. А там ужо працаваў стукач НКВД (сёньня ён лічыцца беларускім пісьменьнікам і мае колькі кнігаў пра дзейнасьць “чекистов” у Заходняй Беларусі).

У выніку пачаліся арышты. Васіля Супруна арыштавалі 6 чэрвеня 1947 году ў вёсцы Глоўсевічы, дзе ён працаваў настаўнікам. Яго адвезьлі ў Баранавіцкую турму, якая мела назву “Крывое кола”. Усё, што канфіскавалі — гэта “Беларусь учора і сяньня” Найдзюка, выдадзеную пры немцах, ды экзэмпляр “Баранавіцкай газэты” з часоў акупацыі зь першым вершам Супруна – “Песьня на чужыне”.

“Па суботах у камэры я чуў, як званілі ў нейкім саборы”, — распавядае Васіль Рыгоравіч. – «Па ім я і арыентаваўся ў часе. Мабыць, недалёка была купінка, куды часьцяком прылятала зязюля...»

Ня ведаю, дзе знаходзілася тая турма, аднапавярховы будынак, з капцёркай і карцэрам. Мяне пад вечар прывозілі з допытаў у камэру, каб я паеў, і перад адбоем забіралі зноў...

Недалёка быў двухпавярховы будынак МГБ.

Грушэўскі ці Грушэцкі, ня памятаю ўжо, палкоўнік, начальнік сьледчага аддзелу, украінец, казаў мне, што яшчэ ў 1924 граміў агентаў Пілсудзкага на Ўкраіне. Ня верыў, што арганізацыя бяз

грошай і сувязяў з Захадам магла быць значнай. Стараўся пераканаць, што нашая задума пустая. З 1924 па 1947 ня памятаў выпадку, каб нехта выйшаў апраўданым. Любіў казаць: "Быў бы чалавек, а дзела знойдзецца".

Пасьля шматлікіх допытаў і катаваньняў Супруна перавезьлі ў менскую "амэрыканку", дзе і прысудзілі да 25 гадоў пазбаўленьня волі і 5-ці гадоў пазбаўленьня правоў. Астатніх судзілі ў Баранавічах. Больш Васіль Рыгоравіч іх ня бачыў. Толькі з Аляксандрам Шапавалам давялося сядзець у Інце.

Трагічны лёс напаткаў Уладзімера Салаўя. Калі пачаліся арышты ён пасьпеў схавацца на хутары ў бацькоў, пасьля ў Баранавічах у сваякоў, пасьля яшчэ недзе... Толькі на пачатку 1950-х ён быў арыштаваны. Але ў турме, хутчэй за ўсё ад катаваньняў, звар'яцеў. 40 гадоў Салавей знаходзіўся пад Горадняй у клініцы. У 1996 яго перавялі ў вар'ятню пад Казлоўшчыну, дзе ён, па словах санітараў, узімку заблукаў у лесе і замёрз. Знайшлі яго і пахавалі толькі ў траўні. На жыровіцкіх могілках да гэтага часу няма помніку Ўладзімеру Салаўю.

Адсядзеўшы 6 год, у 1956 Васіль Супрун быў вызвалены са зьняцьцём судзімасьці.

У 80-ыя гады ўсе сябры падпольля, акрамя яго, былі рэабілітаваныя. У 1992 годзе Васіль Супрун зьвяртаўся ў Вярхоўны Суд, аднак яму было адмоўлена ў рэабілітацыі ўжо не ад імя СССР, а ад імя Вольнай Беларусі, за якую ён змагаўся, паклаў сваю маладосьць і здароўе.

Васіль Супрун распавядае: "Судзьдзі спасылаюцца на справу, быццам "...подполье готовило вооружённое восстание против СССР". Але сьледчыя органы ня здолелі знайсьці зброю. Дапісаліся да таго, што я даручыў на месцах зьбіраць адрэсы і інфармацыю пра раённае кіраўніцтва з мэтай будучага тэрору".

ОПРЕДЕЛЕНИЕ 10.1.1992

Судебная коллегия Верховного Суда.

Шиманович – прокурор полагает, что Супрун Василий Григорьевич не подлежит реабилитации.

...созданная организация ставила своей целью добиться отторжения Белоруссии от СССР...

...Судебная коллегия находит, что Супрун В.Г. не подлежит реабилитации...

У 1995 годзе Васіль Супрун пісаў на імя прэзыдэнта. Ліст накіравалі на разгляд пракуратуры РБ.

"...окончательное решение Верховного Суда – в реабилитации отказать...
...Кондратьев, 1-й зам. прокурора РБ".

Аўтар дзякуе Васілю Рыгоравічу Супруну,

без успамінаў якога гэты артыкул не пабачыў бы сьвет,

і Сяргею Яршу за дапамогу ў зборы матэрыялаў.

Віктар Мухін

# ГЭТЫ ЗАГАДКАВЫ Постмадэрн

Беларускае мастацтва з кожным днём папаўняецца сьвежымі творамі новых аўтараў, якія ня зьвязваюць сябе зь нейкімі мастацкімі стылямі і напрамкамі, а таму вольныя маляваць ды ствараць усё, што прыходзіць у іх мудрую й таленавітую галаву. І яны малююць... Малююць постмадэрновыя шэдэўры. А паколькі аўтары зусім зялёненькія і невядомыя шырокім масам, дык мы й вырашылі надрукаваць адзін з такіх твораў. Хоць постмадэрн няспынна пашыраецца на неабсяжных прасторах нашай краіны, але дагэтуль для большасьці застаецца вялікай загадкай. Прасьвятліць сытуацыю мы папрасілі аднаго зь лідараў і ідэолягаў беларускага постмадэрну – Алеся Туровіча. Але дзеля таго, каб найпаўней раскрыць сутнасьць гэтае зьявы, а таксама яшчэ раз упэўніцца ў тым, што прадстаўлены твор постмадэрновы (ці, наадварот, не постмадэрновы), мы вырашылі паставіць пытаньне гэткім чынам: "Ці падобна гэта на постмадэрн?"

Вось што адказаў сп.Туровіч:

«На постмадэрн ня можа быць што-небудзь падобнае ці непадобнае. Постмадэрн можа быць, яго можа ня быць. Зараз пойдзе інтэрпрэтацыя, згодна зь якой можна будзе сказаць: постмадэрнізм гэта ці не постмадэрнізм. Малюнак на першы погляд графічна не артыкуляваны. Можна даваць розныя вэрсіі – што б выказаў у гэтым творы рэаліст. Агульная колькасьць удзельнікаў дзеі, што паказана на малюнку, прыкладна роўная 30 чалавекам.

У цэнтры мы бачым фігуру, якая стаіць за трыбунай. На трыбуне намаляваны контур гербу "Пагоня". У такой сытуацыі, за такой трыбунаю, этычнае права выступаць мае толькі дэпутат ПЗ. Адначасова, за сьпінай выступоўцы (першы зьлева — направа) мы бачым вялікую трыбуну, што зьяўляецца лавай падсуднасьці і дзе ляжыць пачак цыгарэтаў.

Такім чынам, малюнак ёсьць адным зь дзейсных сродкаў рэклямы здаровага ладу жыцьця, яго трэба размножыць і наклейваць на ўсе пачкі цыгарэтаў замест подпісу "паленьне прыводзіць да хваробаў і раку сэрца".

***З Алесем Туровічам размаўляў Віктар Мухін.***

Пасьля таго, як дыктафон быў выключаны, сп. Туровіч падрабязьней патлумачыў сваё ўспрыманьне гэтага твору аўтара (які пажадаў застацца невядомым), аднак мы вырашылі не раскрываць цалкам ягоныя постмадэрновыя інтэрпрэтацыі і дазволіць чытачу адказаць на пытаньне: што Вы бачыце на гэтым малюнку?

P.S. Менчукі, якім было зададзена тое ж пытаньне, не зьбянтэжыліся й сумленна на яго адказалі, што яны ўбачылі:

- стадыён;
- лекцыя ва ўнівэрсытэце;
- амфітэатар;
- футбол;
- арэна;
- сцэна;
- сельскагаспадарчы каляндар;
- канфэрэнцыя, на якой нехта выступае;
- заля паседжаньняў парляманту;
- сьветлае памяці Вярхоўны Савет.

Дзеля таго, каб камусьці не здалося, што малюнак – фальшыўка, а разам зь ім і ўсе апытаньніінтэрвію, варта зазначыць, што вышэй прыведзеныя зьвесткі 20.05.1999 г. былі зацьверджаныя і пацьверджаныя дэпутатам ПЗ, а ліст з прапановай Алеся Туровіча наконт замены антытытунёвых надпісаў на пачках цыгарэтаў на гэты малюнак адасланы 20.04.1999 г. у Міністэрства аховы здароўя спадарыні ІД.



Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў Прадстаўляе

# ФЭСТ БЕЛАРУСКАЙ Аўтарскай песьні "ГЭТА МЫ"

*Наталя Дзенісюк*
*Алег Дашкевіч*
*Алесь Пальнскі*
*Валеры Пазьнякевіч*
*Вольга Акуліч*

Аўтарская песьня – гэта гітара, душа, кола сяброў, рамантыка... Беларуская песьня – гэта гітара, кола сяброў, рамантыка і фантастычна прыгожая мова, зьлітая з музыкай... Фэст беларускай аўтарскай песьні – гэта вялікае кола сяброў, шмат гітар, сцэна, поўная заля і сотні фантастычна прыгожых беларускіх песень пра каханьне, Бацькаўшчыну, прыроду, шчасьце, страты, людзей... Фэст – гэта маладыя і славутыя выканаўцы разам. Фэст – гэта розныя пакаленьні ў залі, якія аднолькава горача вітаюць і дзякуюць усім выканаўцам. Фэст – гэта касэты з запісам беларускай музыкі, гэта беларуская мова ў антрактах, гэта хваляваньне за кулісамі, гэта публіка, якая разьвіталася з Фэстам стоячы...

**ФЭСТ – ГЭТА МЫ!**

Але нехта **НАС** сабраў. І, як нечакана высьветлілася, **IX** было зусім няшмат – усяго трое. Алёна Шчорс – аўтар канцэпцыі, вядучая, арганізатар, Алесь Мазур – аўтар ідэі і адміністратар, Андрусь Мельнікаў – аўтар канцэпцыі, вядучы, бард.

**Ірына Віданава:** Алёна, што было самым цяжкім падчас падрыхтоўкі Фэсту?

**Алёна Шчорс:** Самае цяжкае, напэўна, — розьніца ў пакаленьнях. Мне 19 год, а колькі Андрусю Мельнікаву? Натуральна, што ў нас крыху рознае бачаньне сьвету, таму і канцэпцыі ў нас крыху разыходзіліся. Літаральна за дзень, калі ўжо трэба было напісаць сцэнар, я не магла пагадзіцца з тым, што прапаноўваў Андрусь, а ён не пагаджаўся з маімі прапановамі. Спрачаліся і па нейкіх глябальна-канцэптуальных пытаньнях, і па дробязях. Вось напрыклад, ён сказаў: "Я выхаджу ў цюбецейцы". А я плянавала ў вечаровай сукенцы... У выніку трэба было вырашаць: ці не право-

дзіць Фэст увогуле, ці саступіць адзін другому і ў рэшце рэшт прыйсьці да нейкага кансэнсусу. Саступіць трэба было мне, бо я маладзейшая. Да таго ж цяжка адназначна вырашыць, хто з нас меў рацыю, але разам мы не згаджаліся, а адразу было вырашана, што канцэрт будзем весьці ўдваіх. Тым ня менш, было прыемна ў выніку атрымаць неабмежаванае маральнае задавальненьне, калі самі барды казалі, што ўпершыню дзякуючы нашаму Фэсту сустрэліся ўсе разам. Гэта і было адной з галоўных мэтаў.

**І.В.:** Якім быў шлях ад узьнікненьня ідэі да яе ўвасабленьня?

**А.Ш.:** Тое, што было зьнешне, г.зн. непасрэдна відовішча, рыхтавалася намі ўтраіх і літаральна за тры – два дні. Уся нябачная праца (пошук і арэнда залі, рэкляма, эмблема, запрашэньне саміх бардаў і г.д.) — Алесем Мазурам, і заняла яна даволі працяглы прамежак часу. Сцэнар пісаўся як заўжды за апошні дзень, і ўвогуле тэксты занатоўваліся непасрэдна перад выхадам кожнага выступоўцы. Спачатку я напісала свой распрацаваны варыянт сцэнару... Мельнікаў толькі паглядзеў на маю паперку, прачытаў там словы... Разумееш, я прытрымліваюся клясыкі. Салідна так салідна рабіць. Я хацела, каб усё гэта было не на ўзроўні самадзейнасьці, а нармальным, прафэсійным мерапрыемствам. Андрусь з маім бачаньнем не пагаджаўся, і ў выніку было напісана адно толькі ўступнае слова. Усё астатняе пісалася так: амаль перад самым выхадам мы пыталіся ў выступоўцы: “Што Вы хочаце, каб пра Вас сказалі”. На другі дзень да апошняга моманту ня ведалі, хто прыедзе...

**І.В.:** Алёна, ці задаволена ты ўсім, што адбылося?

**А.Ш.:** Я задаволена, што мерапрыемства ўвогуле адбылося. Я не магла б узяць на сябе адказнасьць цалкам за гэтую дзею, але я яе бачыла не такой. Хаця... Гэта была мая мара – быць вядучай. Тым ня менш, я баялася, хісталася, зрывалася, адмаўлялася выходзіць на сцэну... Часам проста хацелася ўсё кінуць. У прынцыпе я задаволена, але заўжды можна зрабіць лепш. Галоўнае, што Фэст адбыўся і прынёс задавальненьне і публіцы, і самім выступоўцам.

**І.В.:** Алёна, чым, на тваю думку, стаў гэты Фэст для саміх бардаў?

**А.Ш.:** Перш за ўсё было бачна, што гэтыя людзі закаханыя ў сваю справу, а выступіць на сцэне ці нават проста сустрэцца сваім колам выдаецца так зрэдку;

*Вольга Сідарук*

*Кастусь Вашэка*

*Алесь Паплаўскі*

*Сяржук Хромаў*

*Ігар Мухін-Рабянок*

*Сяржук Мінскевіч*

*Сяржук Кулягін*

*Зьміцер Вінаградаў*



Мусім з вамі пагаварыць, аб нашай долі-нядолі...




што ім не стае публікі, увагі... Мне здаецца, што выканаўцы сапраўды атрымалі неабмежаванае маральнае задавальненьне ад магчымасьці прасьпяваць хаця б дзьве-тры песьні.

Акрамя таго, упершыню была запрошана такая велізарная колькасьць бардаў. Яны нават самі ня ведалі, што іх так шмат. У наступным годзе, калі адбудзецца такое мерапрыемства, тыя, хто быў зараз, абавязкова прысядуць, бо ім вельмі спадабалася... Перш за ўсё тое, што іх слухалі, што яны маглі выканаць для шырокай публікі свае песьні. Прычым тэматыка ніякім чынам не абмяжоўвалася: мы называлі толькі колькасьць песень, а барды ўжо самі абіралі, што ім сьпяваць. Дарэчы, за гэтую свабоду нам вельмі дзякавалі самі выканаўцы. Для маладых вельмі важным было адчуваньне сабе побач з волатамі беларускай аўтарскай песьні. Для сталых, я думаю, — задавальненьне даведацца, што ўсё гэта яшчэ жыве, што зьяўляюцца новыя людзі. Было вельмі шмат сяброўскіх парадаў старэйшых бардаў маладзейшым: наконт аранжаровак, накірункаў творчай працы і г.д. Так што, на мой погляд, Фэст выканаў сваю функцыю.

*Васіль Аўраменка*
*Алесь Камоцкі*
*Зьміцер Бартосік*
*Кася Камоцкая*
*Андрэй Патуліткін*
*Зьміцер Дзядзенка*
*Віктар Юдзін*

**І.В.:** Алёна, ці бачыш ты гэты Фэст нейкай традыцыяй?

**А.Ш.:** Так. Я ўяўляю, якім бы ён мог быць, зь якой эмблемай і г.д. Але я б ужо сёньня вельмі грунтоўна падумала наконт таго, хто будзе вядучымі, арганізатарамі, як сплянаваць працу арганізацыйнага камітэту, якую колькасьць людзей далучыць, бо траім асобам правесьці такое мерапрыемства вельмі складана, таму і былі сур'ёзныя хібы на гэты раз. Я ўжо зараз ведаю, што трэба будзе зрабіць у наступным годзе, каб зарганізаваць усё больш прафэсійна. Неабходна ўлічыць усе памылкі, і тады ў наступным годзе можна будзе зрабіць супэрмерапрыемства.

**І.В.:** Алесь, чаму з усіх магчымых пляцовак была абрана канцэртная заля Палацу прафсаюзаў?



**Алесь Мазур:** Увогуле, ідэя гэтая прыналежыць спадару Мельнікаву. А зь іншага боку, чаму б не Палац прафсаюзаў... Нам падыходзілі і памеры і антураж.

**І.В.:** Як адміністрацыя Палацу прафсаюзаў ставілася да ідэі правядзеньня падобнага фэсту ў іх будынку?

**А.М.:** У прынцыпе з адміністрацыяй Палацу праблемаў амаль не было. Праўда, нам вельмі дапамог сп.Ганкін – дырэктар кінавідэацэнтру Палацу прафсаюзаў, за што мы яму вельмі ўдзячныя. Безь ягонай дапамогі наўрад ці было б магчымым нават зарганізаваць арэнду гэтай канцэртнай залі, а калі б і атрымалася, то значна даражэй.

**І.В.:** Алесь, Фэст сапраўды атрымаўся рэспубліканскага маштабу. Ці адрэагавалі неяк нашыя сродкі масавай інфармацыі на такую гучную падзею?

**А.М.:** Па-першае, ва ўсе рэдакцыі вядучых выданьняў і радыёстанцый былі разасланыя факсы з паведамленьнем, дзе і калі адбудзецца Фэст. Большасьць запрошаных журналістаў прыйшло. Пасьля зьявіліся артыкулы ў "Беларускай Маладзёжнай", "Знамени Юности", "Навінках". Таксама нейкі матэрыял прайшоў па радыё "Бі-Эй", радыё "Мір"; Андрусь Мельнікаў даў інтэрвію радыё "Свабода". Можа крыху і не хапіла рэклямы, бо мы некалькі разоў вымушаны былі пераносіць дату правядзеньня Фэсту, а калі ўжо было няма куды пераносіць, дык прыйшлося ўсё рабіць вельмі хутка...

**І.В.:** Алесь, як аўтар ідэі, ці задаволены ты вынікамі Фэсту?

**А.М.:** Мы ўпершыню сабралі такую базу дадзеных па беларускіх бардах. Мы запрашалі ўсіх, каго магчыма. Пры гэтым прыехала каля 80 – 90 % запрошаных. Мы шукалі людзей па ўсёй Беларусі. Гэта і было адной з галоўных мэтаў Фэсту – сабраць як мага больш, а, па магчымасьці, і ўсіх выканаўцаў беларускай песьні разам. Здаецца, нам амаль удалося...

*Мікола Жура*

*Павел Пастухоў*

*Яўген Савельеў*

*Эдуард Акулін*

*Андрэй Мельнікаў*

*Алег Мікула*

*Валеры Жамойцін*

*Віктар Шалкевіч*

**ІВ:** Андрусь, акрамя таго, што Вы вядомы ўсім бард, Вы яшчэ і адзін з аўтараў канцэпцыі Фэсту, і ягоны вядучы. А па якім прынцыпе Вы запрашалі выканаўцаў?




**Андрусь Мельнікаў:** Справа ў тым, што чыста беларускіх бардаўскіх фэстаў дагэтуль не было. Таму запрашаліся тыя, хто праявіў

сабе менавіта ў беларускай песьні. Безумоўна, шмат каго я ведаў асабіста, пра некаторых чуў... Увогуле, спачатку плянавалі трохдзённае мерапрыемства, а потым вырашылі, што хопіць і двух. Гэтага сапраўды хапіла, каб зьвесьці разам усіх пачынальнікаў і маладых выканаўцаў.

**І.В.:** Андрусь, якой была галоўная ідэя вашай канцэпцыі Фэсту?

**А.М.:** Падаць пачынальнікаў традыцыі беларускай песьні. Лентачку перарэзаў Вінцук Вячорка, адным зь першых сьпяваў Алег Дашкевіч, а апошнім – Эдуард Акулін. Усе яны пачыналі яшчэ ў 70-х.

**І.В.:** Андрусь, чаму Вы абралі залю менавіта Палацу прафсаюзаў?

**А.М.:** Люблю ампіраўскі стыль... Мне падаецца, што ён лепш за ўсё адпавядае атмасфэры.

**І.В.:** Ці чакалі Вы, што заля будзе поўнай?

**А.М.:** Не. Але вельмі прыемна, што столькі людзей прыйшло.

**І.В.:** Андрусь, як на Ваш погляд, ці расьце зараз цікаўнасьць да беларускай аўтарскай песьні?

**А.М.:** Так, аўтарская песьня заўсёды будзе прываблівацць людзей. Можа для кагосьці з маладых яна стане толькі пачаткам для далейшай музычнай дзейнасьці ў іншых яе праявах. Але пачынаюць звычайна менавіта з гітары...

**І.В.:** Андрусь, ці плянуеце Вы і ў будучым ладзіць падобныя Фэсты?

**А.М.:** Магчыма, у гэтым годзе была закладзена новая традыцыя, але калі адбудзецца наступны Фэст зараз ня вырашылі. Аднак, я асабіста праз год, 20 кастрычніка 1999 году, абавязкова буду сьвяткаваць гэты дзень.

**І.В.:** Андрусь, чым для Вас стаў Фэст?

**А.М.:** Асабістым сьвятам.

**Статыстыка Фэсту:**

1. Старэйшы ўдзельнік: Алесь Шпакоўскі
2. Самы малады ўдзельнік: Зьміцер Вінаградаў
3. Самая маладая ўдзельніца: Наталя Дзенісюк
4. Самае працяглае выступленьне: Валеры Жамойцін
5. Самы часты выхад на сцэну: Сяржук Мінскевіч (4 разы за 2 дні)
6. Самае распаўсюджанае пытаньне выканаўцаў да арганізатараў: "Якая цэнзура?"

**Тут можа быць і ваш партрэт, калі вы выступіце на наступным фэсьце**

# ЗБС у асобах

Старшыня ЗБС
Алесь Міхалевіч



Галоўны рэдактар «СД»
Ірына Віданава